—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
1
ЛЮТАГА
1991 г.
№ 5 [3571]
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ — 15 кап.
[Па падпісцы — 10 кап.]



**Пра Уладзіміра Мулявіна ды ўзгаданы ім ансамбль «Песняры» было ў «ЛіМе» нямала добрых і слушных слоў. Сёння да тых слоў мы далучаем і шчырыя віншаванні: лідэру беларускай музычнай эстрады Уладзіміру Георгіевічу Мулявіну нададзена высокае званне — «Народны артыст СССР». Зычым яму творчага даўгалецця і новых дасягненняў у мастацтве!**

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСКАЯ КНІГА!

Розныя выстаўкі праводзіліся ў кнігарні Светач», што размешчана на праспекце Машэрава ў сталіцы рэспублікі. І з нагоды вялікіх і малых юбілеяў, і ў сувязі з чарговымі дэкадамі, тыднямі, днямі. Аднак такой экспедыцыі, як прапанавана мінчукам і гасцям горада-героя цяпер, бадай, не было.

Упершыню сабраны разам кнігі, брашуры, альбомы, наборы паштовак, выпушчаныя выдавецтвамі Беларусі на працягу года. Адпаведная і назва выстаўкі — «Беларуская кніга-90». Арганізатары яе — Дзяржаўны камітэт БССР па друку і Рэспубліканскае аб'яднанне «Белкніга». На адным са стэндаў прыведзены, так бы мовіць, колькасныя паказчыкі. У рэспубліцы працуе 11 выдавецтваў, 42 паліграфічныя прадпрыемствы, каля 600 кнігарань; штогод выпускаецца 1235 назваў кніг, брашур, альбомаў, іншай друкаванай прадукцыі, тыраж якой — 53 мільёны 393 экземпляры.

Факты, як кажуць, рэч упартая. Але ж мы ведаем і тое, што на стэндзе не адлюстравана. Рэспубліка па выпуску кніг на роднай мове (будзем памятаць: дзяржаўнай мове!) займае ў краіне далёка не першае месца, а да маленькай, але нацыянальна свядомай Эстоніі Беларусі і наогул далёка. Што ж, будзем спадзявацца на лепшае, а пакуль парадуемся таму, што ёсць.

Паглядзець сапраўды ёсць што. Ёсць што і прыдбаць. Праўда, апошняе больш разлічана на прыхільнікаў вострадэтэктыўных адчуванняў ці кулінарыі. Зрэшты, не толькі. Можна набыць, скажам, энцыклапедыю «Скарына» — выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі выпусціла яе гэты раз у перакладзе на рускую мову: трэба ж умець паказаць сябе і людзям. Знаходзіць пакупнікоў і факсімільнае выданне Скарынавай «Бібліі», хоць і не столькі, як хацелася б.

Прысутнасць вялікага першадрукара на выстаўцы, да слова сказаць, вельмі адчувальная. І гэта зразумела. Мінулы год быў ягоным, скарынаўскім, і выдавецтвы парупіліся, каб выпусціць да яго 500-годдзя як мага больш кніг. Назавём толькі адну з іх — ці не апошнюю па часе выхаду. А. Лойка напісаў для дзяцей аповесць «Скарына на Градчанах», якая ўзнаўляе пражскі перыяд жыцця тытана эпохі Адраджэння. Яе выпусціла выдавецтва «Юнацтва» ў цудоўным афармленні мастака В. Мікіты на высокім паліграфічным узроўні. Праўда, ёсць адно «але»: кніга адрасуецца дзецям, а цана — ажно чатыры рублі!

«Юнацтва» і «Мастацкая літаратура» — нашы два вядучыя выдавецтвы, якія зарыентаваны на выпуск кніг «прыгожага пісьменства». Стэнды іх побач. І таму, і другому ёсць што паказаць і прапанаваць пакупнікам. У «Мастацкай літаратуры» радуюць вока салідныя тамы бібліятэкі «Скарбы сусветнай літаратуры». Ведаючы, што, на жаль, яны пакуль што не так хутка, як таго хацелася б, знікаюць з паліц кнігарань, хочацца не проста запрасіць, а крыкнуць: «Людцы добрыя! Гэта ж вялікае багацце просіцца ў вашы рукі і ў рукі вашых дзяцей! На сваёй роднай, матчынай мове — сусветная класіка! І свабодна прадаецца! У якой яшчэ рэспубліцы ўбачыш такое?!»

Ад выпуску ідэалагічна-ўстановачных кніг, брашур і дапаможнікаў нарэшце адышло выдавецтва «Беларусь». Не проста ў нагу з часам пачало ступаць, а дбае пра інтарэсы чытача. Тут і выданні на замежных мовах, якія знаёмяць людзей свету з рознымі бакамі нашага жыцця, і шматлікія альбомы, у тым ліку альбомы-нарысы, прысвечаныя творчасці беларускіх мастакоў. Але ці ўбачаць такія выданні свет заўтра? Рынак жа наступае, рынак дыктуе свае ўмовы. І не толькі згаданым выдавецтвам, а і іншым: «Народнай асвеце», «Вышэйшай школе», «Навуцы і тэхніцы»... Яны супраціўляюцца дыктату ўладальнікаў паперы, яны робяць усё магчымае, каб паліграфічныя прадпрыемствы не забываліся і пра беларускую кнігу.

А ў яе, нашай кнігі, нямала перашкод. Ёй перабягаюць дарогу анжэлікі і каралі, яе спакушае Грышка Распуцін, сумнiцельныя аўтары спрабуюць прымусіць яе хаўрусаваць з «Азбукай кахання». Сёння яна супраціўляецца, не паддаецца. А заўтра?

Будзем спадзявацца, што і заўтра яна знойдзе выйсце са складанага становішча. Прыгадайма, у якіх цяжкіх умовах друкаваў свае кнігі Ф. Скарына, а — пайшлі яны па свеце, панеслі славу пра беларусаў.

Дык жыве беларуская кніга? Жыве!

НАШ КАР.

## ЧЫТАЙЦЕ

### КРОК УПЕРАД, ДВА КРОКІ НАЗАД?

**Некалькі слоў пра рытарычныя пытанні ў пісьмах нашых чытачоў.**

СТАРОНКА 4

### НА РАЗДАРОЖЖЫ



**Ігнат ДУБРОЎСКІ: «Я асабіста не магу згадзіцца з тым, што пераход да аднаасобных сямейных гаспадарак выклікаецца хранічнай адсталасцю большай часткі калгасаў і саўгасаў. Даводзіцца чуць, што ўсе эканамічна слабыя калгасы і саўгасы з пераходам да рынчнай сістэмы акрыяюць, уздымуцца да высокага ўзроўню. Рэальна, на жаль, гэтага не здарыцца...»**

СТАРОНКІ 5, 12

### АНКЕТА «ЛіМа»

**На пытанні тыднёвіка адказваюць Мікола Арочка, Люба Тарасюк, Ігар Жук.**

СТАРОНКІ 6—7

### ЛЕТАПІСЕЦ СУРОВАГА ВЕКУ

**Народнаму пісьменніку Беларусі Івану Пятровічу ШАМЯКІНУ споўнілася 70 гадоў.**

СТАРОНКІ 8—9

### «ВАКОЛ КАХАННЯ»

**Фотарэпартаж з прэм'еры ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі БССР.**



СТАРОНКА 11

### ПРАЕКТ СТАТУТА

**Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады.**

СТАРОНКІ 14—15

# Кола Дзён

**24 студзеня**

апублікаваны зварот вядомых дзеячаў культуры да сваіх калег з заклікам спыніць усялякае супрацоўніцтва з Цэнтральным тэлебачаннем у знак пратэсту супраць палітычнай цэнзуры. «На нашых вачах, — сказана ў звароце, — Л. Краўчанка вярнуў тэлебачанне да брэжнеўскіх часоў». Сярод тых, хто падпісаў пратэст, — беларускія кінематаграфісты В. Нікіфараў і М. Пташук.

**25 студзеня**

у Маскве, у гасцініцы «Акцябрская» адбылася прэзентацыя Беларускага грамадскага саюза «Зьніч» імя П. М. Машэрава. Мэта новага саюза — усебаковая дапамога пацярпеўшым ад чарнобыльскай аварыі, перш за ўсё — стварэнне сістэмы лячэння і рэабілітацыі дзяцей, якія жывуць у заражанай зоне. Старшынёй саюза абрана Наталля Пятроўна Машэрава.

У Мінску прайшла забастоўка вадзіцеляў «хуткай дапамогі». Раніцай на лінію выйшлі ўсяго 15 працэнтаў машын. Якімі б ні былі прычыны гэтай надзвычайнай акцыі, у першую чаргу яна, бясспрэчна, ударыла па хворых.

Прадстаўнік Прэзідэнта СССР у Літве Г. Таразевіч сустрэўся з журналістамі і, у прыватнасці, сказаў, што падстаў для ўвядзення прэзідэнцкага кіравання няма. Адказваючы на пытанне, калі вайскоўцы пакінуць захопленыя Дом друку і тэлевежу ў Вільнюсе, Г. Таразевіч заявіў, што пра гэта трэба дамаўляцца з кампартыяй Літвы, а таксама з кіраўніцтвам Дзяржкамтэлерадыё СССР.

**26 студзеня**

сталі вядомы падрабязнасці, што тычацца сумеснага загада Міністэрства абароны і Міністэрства ўнутраных спраў СССР. Паводле яго, у сталіцах саюзных рэспублік і буйных гарадах з І лютага арганізуецца патруляванне з выкарыстаннем бронетранспарцёраў і іншай баявой тэхнікі. Можна чакаць з'яўлення ваенна-міліцэйскіх нарадаў і на вуліцах Мінска. Грамадскасць занепакоена, многія лічаць гэта першым крокам да ўвядзення надзвычайнага становішча.

**27 студзеня**

У Харкаве абвешчана аб стварэнні палітычнага блоку «Дэмакратычны кангрэс»—кааліцыі незалежных партый і рухаў сацыял-дэмакратычнай, ліберальнай, нацыянальна - дэмакратычнай і агульнадэмакратычнай арыентацыі. Галоўнымі мэтамі ДК названы: кансалідацыя намаганняў дэмакратычных сіл дзеля мірнай ліквідацыі таталітарнага рэжыму, стварэнне суверэнных дэмакратычных дзяржаў, дэмантаж імперскіх, унітарных структур у цывілізаванай форме.

У рабоце ўстаноўчай канферэнцыі ДК удзельнічалі прадстаўнікі каля 30 партый і рухаў, а сярод іх—Беларускага народнага фронту і Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі.

**29 студзеня**

пасля тыднёвага перапынку аднавілася праца Вярхоўнага Савета БССР. Галоўныя пытанні — эканамічная рэформа, прыярытэтнае развіццё беларускай вёскі. Была задаволена просьба Я. Я. Сакалова аб складанні ім дэпутацкіх паўнамоцтваў.

На Усесаюзнай канферэнцыі прыхільнікаў міру мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі Філарэт выбраны народным дэпутатам СССР.

# РУХ НАСУСТРАЧ... А ДАЛЕЙ?

Наўрад ці ёсць патрэба нагадваць, да чаго прывяло партыйнае ўздзеянне на літаратуру. Доўгія гады і пісьменнікі, і кіраўнікі літаратурна-мастацкіх выданняў, рэспубліканскіх выдавецтваў пастаянна знаходзіліся пад своеасаблівым ідэалагічным прэсам. За любую «правіннасць» выклікалі на «дыван», асабліва, калі ты быў членам партыі; шырока выкарыстоўвалася «тэлефоннае права», якое вызначала лёсы кніг і публікацый.

Аднак жа, будзем шчырымі, знаходзіліся ўсё ж партыйныя дзеячы, якія ў сваёй рабоце імкнуліся як бы ўзняцца над часам. Былі яны і на ўзроўні ЦК Кампартыі Беларусі. Найперш маем на ўвазе Пятра Міронавіча Машэрава.

Ды, на жаль, творчыя сувязі паміж партыйнымі органамі і кіраўніцтвам СП Беларусі, асобнымі творцамі апошнім часам — дарэчы, перабудовачным — пачалі рвацца. Нядаўна ж, як вядома, партыйную арганізацыю рэспублікі ўзначаліў новы чалавек — першым сакратаром ЦК КПБ і членам Палітбюро ЦК КПСС стаў Анатоль Аляксандравіч Малафееў. Кіраўніцтва, так бы мовіць, новае. А адносіны да літаратуры, да нацыянальнай культуры — таксама новыя?

Каб высветліць гэта, неабходна зрабіць крок насустрач. Ён і быў зроблены ў мінулую сераду. На партыйны сход у СП Беларусі прыйшлі А. Малафееў і першы сакратар Партызанскага райкома партыі М. Стукач. У час абмеркавання пытання «XXXI з'езд КПБ. Шляхамі абнаўлення» гаварылася пра розныя аспекты ранейшых і цяперашніх узаемаадносін літаратараў з партыйным кіраўніцтвам і наадварот. Гаворка скіроўвалася ў рэчышча праблем, якія не могуць не хваляваць сёння. Гэта трывожнае становішча, у якім апынуўся беларускі друк і, ў прыватнасці, рэспубліканскія выдавецтвы, літаратурна-мастацкія выданні, штотыднёвік «Літаратура і мастацтва» ў сувязі з падаражэннем паперы, павелічэннем паліграфічных расходаў; марудлівае ажыццяўленне Закона аб мовах у Беларускай ССР; ранейшы, рэштковы прынцып планавання ў адносінах да культуры.

Тым не менш, зрухі робяцца. Як сказаў у сваім выступленні А. Малафееў, і ў Цэнтральным Камітэце партыі ствараюцца курсы па вывучэнні беларускай мовы. Жыць у рэспубліцы і не валодаць яе дзяржаўнай мовай,— падкрэсліў партыйны лідэр,— значыць, парушаць яе законы. А. Малафееў паведаміў, што мяркуецца сёлета правесці пленум ЦК КПБ па праблемах нацыянальна-культурнай палітыкі.

На сходзе выступілі сакратар парткома Я. Каршукоў, А. Жалязоўскі, П. Прыходзька, Г. Далідовіч, І. Чыгрынаў, М. Стукач, В. Мыслівец, Л. Прокша, У. Паўлаў, У. Якутаў, дырэктар Беллітфонду В. Вільтоўскі. Б. Сачанка, які вёў сход, падсумаваў: «Няхай сённяшняя сустрэча будзе пачаткам нашай супольнай працы на карысць культуры».

Першы крок насустрач зроблены. Далейшае развіццё ўзаемаадносін літаратараў і партыйнага кіраўніцтва залежыць, безумоўна, ад абодвух бакоў.

**НАШ КАР.**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# *ВЕДАМАСЦІ, АЛЕ НЕ «СЛАВЯНСКІЯ»*

Набыў днямі ў кіёску незнаёмыя мне «Славянские ведомости» № І. Раз, другі перагарнуў газету, хочучы даведацца, хто яе выдае і хто рэдагуе. Адказнага за выпуск не знайшоў, а што да заснавальніка, дык на другой старонцы прачытаў: «Газета — голос Славянского общества «Содружество», недавно созданного в республике. Главной своей задачей мы считаем укрепление братства, единства трех русских народов: великороссого, белорусского, малороссого». Прачытаў і не паверыў, бо такое вызначэнне было афіцыйнае ў дарэвалюцыйнай рэчаіснасці.

Набраўся цярпення прачытаць гэтую адмысловую газету ад першай старонкі да апошняй. Так, супрацоўнікі альбо аўтары выдання сапраўды прапаведуюць вялікарускі, шавіністычны накірунак палітыкі былой царскай Расіі. Гэта нават відаць па тым, што ў дэвіз яны вынеслі слова «Однако!» На першы погляд, звычайнае слова. Але той, хто крыху ведае гістарычныя дакументы, адразу ўспомніць: менавіта гэтым слоўкам любіў пазначаць многія паднесеныя на подпіс паперы расійскі імператар Мікалай II.

А цяпер вось маем справу з гэтым імператарскім «однако» ў поглядах і ў ацэнцы таго, што адбываецца ў нашай рэспубліцы. А супрацоўнікам ці аўтарам «Славянских ведомостей», здаецца, усё ў нас не падабаецца: і наш урад, і БНФ. Нават больш — таварышы, друкуючы пэўны матэрыял, пасля яго то «обращаются», то «требуют» ад нашых вышэйшых кіруючых органаў, у тым ліку ад Пракуратуры рэспублікі і КДБ БССР, пакараць тых, хто цяпер фактычна дабіваецца сцвярджэння дзяржаўнага і нацыянальнага суверэнітэту Беларусі, яе самастойнага эканамічнага курсу, адраджэння беларускай мовы і культуры. Пачытайце, скажам, з якой любоўю абараняецца тут таварыш Л. Пілатовіч, які дазволіў сабе ў «Политическом собеседнике» абылгаць Саюз пісьменнікаў Беларусі, яго X з'езд, найбольш вядомых нашых пісьменнікаў! Таварыш, які страціў пачуццё меры, выдаецца за героя і несправядліва пакрыўджанага пастановаю ЦК КПБ наконт яго суб'ектыўнага і непрыстойнага артыкула!

І яшчэ. Як кажуць, пра палітычныя погляды супрацоўнікаў ці аўтараў газеты. На яе старонках змешчаны ўрывак з успамінаў былога чэкіста, які са сваіх пазіцый ганьбіць Хрушчова, а таксама змешчаны пасквільны партрэт Гарбачова і адвольны каментарый да присуджэння яму Нобелеўскай прэміі міру. Не трэба быць надта мудрым, каб зразумець: не даспадобы, ох, як не даспадобы гэтаму выданню ініцыятары першай і другой адліг!

Падсумоўваючы вышэйнапісанае, нельга не сказаць: дзіўна некаторыя нашы землякі разумеюць «дружбу со всеми народами». А па-другое, будзе дакладней, калі гэтую газету назваць не «Славянские ведомости», а «Великодержавные, доперестроечные ведомости».

**Генрых ДАЛІДОВІЧ.**

# ЯК ЗАБЛЫТАЛІСЯ Ў СОСНАХ

**На пачатку студзеня карэспандэнтаў «ЛіМа» запрасілі ў пасёлак Сосны пад Мінскам на мясцовую ўрачыстасць. Мелася на ўвазе, што над будынкам пасялковага Савета ўзаўецца побач з дзяржаўным нацыянальны — бел-чырвона-белы — сцяг. На жаль, урачыстасць не адбылася... Але пра ўсё па парадку.**

У кастрычніку мінулага года пасялковы Савет прымае рашэнне аб вывешванні беларускага нацыянальнага сцяга разам з дзяржаўным у святочныя дні і дні памятных дат. Але ішоў час, а рашэнне заставалася на паперы. Група жыхароў пасёлка падпісала пратэст: чаму не выконваецца рашэнне мясцовай улады? Група дэпутатаў пассавета вырашыла нагадаць аб прынятым рашэнні свайму старшыні — У. Кавалёву. У адказ старшыня назваў рашэнне... неканстытуцыйным. Давялося для разгляду сітуацыі склікаць прэзідыум пассавета, на пасяджэнне якога і давялося нам трапіць разам з народным дэпутатам БССР Я. Цумаравым (тут яго выбарчая акруга).

Трэба адразу сказаць, што рашэнне кастрычніцкай сесіі Сосненскага Савета было неправамоцным — тут старшыня сапраўды мае рацыю. Справа ў тым, што за рашэнне галасавала 9 чалавек з 19— не хапіла аднаго голасу. Незразумела толькі, чаму кіраўніцтву Савета спатрэбілася столькі часу, каб «усвядоміць» памылку? Здаецца, справа тут не толькі ў працэдурных тонкасцях. Спрэчкі на пасяджэнні прэзідыума мелі далёка не фармальны характар.

Частка дэпутатаў даводзіла: паколькі большасць жыхароў пасёлка небеларусы, то і беларуская сімволіка тут непатрэбная. У крайнім выпадку яны згаджаліся на рэферэндум, які, нібыта, і дазволіць прыняць канчатковае рашэнне пра сцяг.

Недарэчнасць падобнай пастаноўкі пытання растлумачыў Я. Цумараў. Нацыянальная сімволіка, як і гісторыя, даводзіў ён, не вызначаюцца рэферэндумам. Ёсць Дэкларацыя рэспублікі аб суверэнітэце, якая безумоўна дазваляе выкарыстоўваць нацыянальны сцяг, іншыя сімвалы органам дзяржаўнай улады. Але старшыня пассавета спасылаўся на Вярхоўны Савет — маўляў, няхай там спачатку прымуць рашэнне. Ды й наогул, людзям зараз не да сімвалаў, пра хлеб трэба думаць. Такая вось вельмі знаёмая логіка.

Успаміналі і пра спробу Мінсавета «ўзаконіць» бел-чырвона-белы сцяг (дарэчы, пасёлак Сосны ўваходзіць у гарадскую рысу і падпарадкоўваецца Заводскаму раёну). Тады таксама не хапіла аднаго голасу...

Крызіс улады — паняцце не абстрактнае. Гэта вынік дзеяння, ці, часцей, бяздзеяння канкрэтных людзей на месцах, якія ўсё яшчэ чакаюць указанняў зверху і для якіх Дэкларацыя аб суверэнітэце — не ўказ.

Як бы ні скончылася гэтая гісторыя ў Соснах (а дэпутаты, трэба спадзявацца, не сказалі яшчэ свайго апошняга слова), яна атрымалася вельмі павучальнай.

**В. Т.**

# Хроніка Адраджэння

26 студзеня ў Вільні клуб «Сябрына» наладзіў вечарыну, прысвечаную 70-м угодкам Беларускага гісторыка-этнаграфічнага музея імя Івана Луцкевіча, які існаваў у Вільні з 1921 па 1945 гады.

Пра гісторыю музея распавядалі Л. Луцкевіч, А. Анішчык.

●

Ствараецца беларускае таварыства калекцыянераў. Як сказана ў «Звароце да калекцыянераў Беларусі», змешчаным у першым нумары газеты «Беларускі калекцыянер», што выдаецца арганізацыйным камітэтам БТК, «таварыства павінна аб'яднаць у сваіх радах тых калекцыянераў, якім сапраўды неабыякавы лёс Беларускага Адраджэння». Мэты БТК — культурна-асветніцкая праца, выставы, збор нацыянальных каштоўнасцей і іх прапаганда. Адрас аргкамітэта: 211030 г. Орша, вул. Флёрава, д. 7, кв. 16. Сярожкіну Алесю Міхайлавічу.

●

Пачынаючы са студзеня, у кіёсках «Саюздруку» ізноў прадаецца тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства Беласточчыны «Ніва». На рэспубліканскі чытацкі рынак выданне вярнулася дзякуючы сумесным намаганням БГКТ і таварыства «Радзіма». Індэкс тыднёвіка 36911, кошт падпіскі на год — 24 рублі.

●

Падпісчыкі лепельскай незалежнай газеты «Пагоня» атрымалі яе першы нумар за гэты год. Набыўшая за год выдання пэўныя сімпатыі чытачоў, на гэты раз «Пагоня» звярнулася да «нашчадкаў былых беларускіх шляхціцаў», да тых, «хто ў сваіх жылах адчувае пульсаванне высакароднае дваранскае крыві», трымаць сувязь з рэдакцыяй. Як будуць развівацца падзеі — пачакаем.

●

26 студзеня беларуская праграма радыё «Свабода» перадала Зварот беларускіх уніятаў да Папы Рымскага. Вернікі просяць Яго Святейшаства спаслаць благаславенне адроджанаму на Беларусі уніяцкаму руху.

●

У Маскве створаны арганізацыйны камітэт згуртавання беларускіх вайскоўцаў. Пра мэты і дзеі згуртавання падрабязнай інфармацыі пакуль што няма. Аргкамітэт звярнуўся да афіцэраў-беларусаў усяе краіны з заклікам падтрымаць ідэю беларускага руху ў войску.

●

Па серадах а адзінаццатай гадзіне ў Доме літаратара чытае лекцыі беларускі гісторык Мікола Ермаловіч. Яго ная канцэпцыя гісторыі Беларусі значна адрозніваецца ад афіцыйных дагматаў.

Ужо адбылося тры лекцыі. Наперадзе — самыя цікавыя: фармаванне Вялікага княства Літоўскага, Жамойцкага і Рускага.

●

Апошнім часам БТ паказала тры літаратурныя перадачы аб нядаўніх персонах нон-грата ў нашых сродках масавай інфармацыі: нарэшце прыпадня та жалезная заслона ў дачыненні да постацей В. Ластоўскага, Я. Дылы, Б. Тарашкевіча. Гэта робіць гонар стваральнікам перадач!

З кнігі «За ценем самотнага сонца»

Алесь БАДАК



## НА ТЫМ БАКУ РАКІ

На тым баку ракі
стаіць дом.
У ім жыве мой вораг,
якога я вельмі люблю і
паважаю.
Мы так даўно з ім не
размаўляем
і абыходзім адзін аднаго,
што я ўжо забыўся
на прычыну,
з-за якой мы сталі ворагамі.
Мне вельмі хацелася б
пайсці на той бок ракі
і паспрабаваць памірыцца
са сваім ворагам,
але мая гордасць
не дазваляе зрабіць мне гэта,
і мой сорам
перашкаджае зрабіць мне гэта,
і настырная думка
ахалоджвае мой пыл:
а можа, ён вінаваты перада
мною
настолькі,
што мне няможна
яму даравацъ?
Штодня
я з самотай і жалем,
гляджу на той бок ракі.
дзе жыве мой вораг.
Вунь ён корпаецца ў сваім
агародчыку.
Вунь ён нешта майструе
ля свайго дома.
Я ведаю, што яму
намнога лягчэй,
бо ён мяне чамусьці
па-ранейшаму не любіць.

●

Жалобнае маўчанне
З тужліваю хадою...
У кожным пахаванні
Ёсць нешта незямное.
Ёсць нейкая таемнасць,
Нявыказанасць думак,
Калі ў душы ўзаемнасць
Няўпэўненасці з сумам.
Калі душа раптоўна
Адчуе на імгненне
Скрозь сум, і жаль, і стому —
Нябёсаў прыцягненне...

## ДОМ

Зменяць лета сырыя дажджы,
І пажоўкне трава пад акном.
Прыйдуць людзі чужыя ў мой
дом
І навучаць, як правільна жыць.

Я паслухаю гэтых людзей,
Намахаўшыся ўслед ім рукой,
І пастаўлю заместа акон
Восем новых у доме дзвярэй.

Зачынюся на восем замкоў,
Каб ад працы такой адпачыць.
Ды разбудзяць мяне уначы
Брэх сабачы і шум галасоў.

— Гэй, на ноч ці не пусціце
ў дом?
І ўспыхне пад столлю святло,
І азорыць сабою жытло,
Пыл і бруд несусветны кругом.

Я гасцей праведу на зары
На шырокі і шумны бальшак.
Нарагочуцца госці:
— Дзівак!
Хто ж так дах навучыў цябе
крыць?!

Плюну дома ў чатыры бакі,
Ці то злосць адагнаўшы,
ці страх.
І пакрыю шпалерамі дах,
Як вучылі мяне знатакі.

Зачынюся на восем замкоў,
Каб самоту і стому суняць.
Ды разбудзяць мяне сярод дня
Брэх сабачы і шум галасоў.

— Гэта што за вар'ят тут жыве,
Што з бярвенняў свой дом
збудаваў?!
Ды ці ёсць у яго галава?!
І ці ёсць што ў яго галаве?!

Плюну зноў у чатыры бакі
І забуду пра сон і яду,
І забуду пра боль і нуду,—
Дзякуй Богу, што ёсць знатакі!

Толькі зноў за спіной зашумяць,
Што не гэтак пастаўлены плот,
Што не там пасадзіў агарод.
— Як ты мог!
Ці не мог ты
спытаць?!

Дзень за днём прамільгнуць,
дзень за днём.
І раптоўна зусім
па вясне
Ці то шчасце ўсміхнецца і мне,
Ці то смерць завітае ў мой
дом.

І збяруцца — нібыта сябры,
А нібыта і не — над труной:
— Хто дазволіў памерці
вясной?
Ды яшчэ да таго ж на зары!...

●

Не стой так доўга
У журбе
На сцішанай дарозе.
Мне цяжка несці
На сабе
Твой развітальны позірк.
Як грэшнік —
Крыж,
Як здраднік —
Нож
У горкі час расплаты,
Нясу яго я за спіной
Дадому, як пракляты.
І пройдзе год,
Як дзень зімой,
І ранак ноч абгоніць.
Забуду ўсё,
А позірк твой
Спіною
Буду помніць.
І вось аднойчы
ў дзіўным сне
Я голас твой пачую
І боль, нязведаны раней,
Прачнуўшыся, адчую.
Ды нехта побач,
Ля сцяны,
Маё паўторыць імя,
Кранецца вуснамі
Спіны —
І гэты боль суніме.

## «Анкета «ЛіМа»

**У першай анкеце новага года (гл. мінулы нумар) удзельнічалі В. Акудовіч, П. Дзюбайла, І. Чарота. Нагадваем пытанні, з якімі «ЛіМ» звярнуўся да крытыкаў і літаратуразнаўцаў:**

**Якімі бачацца вам здабыткі мінулага літаратурнага года?**

**Якія кнігі, публікацыі, дэбюты запомніліся?**

**Што радуе і што непакоіць?**

## Мікола АРОЧКА:

# «НЯЎЖО ПРАЦЭСЫ НЕЗВАРОТНЫЯ?»

Відаць, не толькі маю ўвагу апошнім часам запаланіў своеасаблівы жанр споведзі. Падзеяй мінулага літаратурнага года сталі «Споведзь» Ларысы Геніюш і «Споведзь» Сяргея Грахоўскага. Першая з іх нараджалася трохі раней — пад чорным пакрывам брэжнеўскага неасталінізму, другая — у сучасную прасветліну галоснасці. Зараз я — не пра іх цяжка засведчаныя аўтабіяграфічныя кругі пекла, у якіх цярпенне народа ўвасоблена на ўзроўні *А. Салжаніцына*. Крануся толькі здавён балючай нашай нацыянальнай ідэі «тэстаменту», што лейтматывам пранізвае твор Л. Геніюш. Разварушаная нашай пакутна-слыннай паэткай, апосталкай, гэта ідэя («Божа зямлі нашай»!) сёння настойліва ўрываецца ў паэзію, у гарачае слова публіцыстыкі, у роздум пра наш Беларускі Шлях. Чаму так апантана і недатыкальна (для брудных рук) *несла Геніюш праз* усе трагічныя зломы жыцця гэту ідэю? *Можа*, спакушалася, як і іншыя там, міражнай «легендай», «міфамі і буянымі амбіцыямі» (У. Калеснік)? Зусім не! Яна была прароча-відушчай. Тыя, хто пасля Берлінскай нарады 1925 г. «рашыліся скарыстаць з урадавага памілавання» (амністыі) і вярнуліся ў Менск (Ластоўскі, Лёсік, Цвікевіч, Заяц і інш.), былі ж неўзабаве рэпрэсіраваны. Яны ўсе, хто жыў для Беларусі, для гістарычнага ўсталявання Беларускага Дома, былі «страшныя для тых прышлых і мясцовай гадоўлі паноў, падпанкаў, лёкаяў і чыноўнікаў, якія адзіна сябе лічылі тут паўнапраўнымі гаспадарамі» (Т. Чабан).

Вось чаму ў Л. Геніюш былі ўсе падставы для ашчаджвання (вышэй за жыццё сваё) дакументаў «прагалошвання незалежнасці», таго «тэстаменту», у якім канцэнтравалася — як у палітычна-прававым дакуменце — усё гістарычнае жыццё беларуса, яго асобасць характару, натуры, светаадчування, адкрытых для шчырасці, міласпагады, праўдалюбнасці, хрысціянскай дабрачыннасці і цярпення. Сама паэтка — *увасабленне тых рысаў годнасці*, шляхотнасці, сумленнасці, хрысціянскасці, што ў спадчыну пераdаліся ад роднага свету людзей. З такімі першароднымі пакладамі можна было годна і трывала пачувацца і ў цывілізаваным свеце! Хоць паэтка трохі і наракала, кажучы пра сябе і родных: «Мы не любілі сваіх ворагаў, настолькі хрысціянамі мы не былі, але мы памагалі ім у цяжкі час, можа, крыху *спадзяваліся, што дабро* ачалавечыць ім душы». І якая няўдзячнасць (а «ўдзячнасцю мерыцца культура людзей»!): каму памагала, каго ратавала, вобаратнем выпаўзаў, выдаваў. Што робіцца з людзьмі, з мараллю? На вытаптаным месцы культывавалася нянавісць, якую В. Быкаў лічыць наўмысна запраграмаванай «часткай вялікай ідэі таталітарнага заняволення *чалавека*».

Як саскрэбсці са здаровага нацыянальнага цела (нібыта таму, у попеле, з уздзетымі рукамі Іову) жахлівыя струпы *насланай праказы*, саскрэбсці наносны бруд з душы? Няўжо працэсы незваротныя? Над гэ-

ДУМКА ЧЫТАЧА

# ЯКАЯ МОВА? СВАЯ!

Хай даруе мне чытач, што я, спецыяліст па жалезабетоне, бяруся за такую тэму. Але што зробіш, калі нашы беларускія філосафы маўчаць. Між тым, у сферы навукі і тэхнікі працуе ці не большасць інтэлігенцыі. Калі яны не павернуцца да роднай мовы, беларусізацыя Беларусі не адбудзецца.

Ужо амаль усім ясна, што без беларускай мовы немагчыма існаванне беларускага мастацтва (хоць дасюль *няблага* жывуць вучоныя, што даказвалі адваротнае). Згодна апытанню, праведзенаму БНФ, 46 працэнтаў даспела да разумення таго, што без беларускай мовы немагчымы рэальны суверэнітэт рэспублікі. А гэта ўжо раўназначна прызнанню таго, што рабочая мова вызначае не толькі форму, але і сутнасць законаў, што мова фарміруе стыль жыцця і працы і з'яўляецца лепшым абаронцам самабытнасці народа.

Ну, а як суадносіцца мова з навукай і тэхнікай? Ці мае значэнне, на якой мове думае спецыяліст? Апытанне, праведзенае летась у БПІ, паказала: большасць выкладчыкаў і студэнтаў лічыць, што мова не аказвае ніякага ўплыву на вынікі навукова-тэхнічнай творчасці. Больш за тое, многія лічаць, што з пераводам тэхнічных дысцыплін на беларускую мову пачнуцца застой і адставанні. Дык ці трэба ў прынцыпе беларускім спецыялістам беларуская мова? Ці змогуць яны дамагчыся *большых поспехаў*, ігнаруючы мову? Пытанне гэтае, маючы філасофскі характар, не можа вырашыцца доследным шляхам.

*Пачнём з галоўнага*, «забойнага» аргумента праціўнікаў беларусізацыі: 2+2=4 на любой мове роўнае 2+2=4, і гэта ёсць абсалютная ісціна ў любым кутку свету. З ёй цяжка не *пагадзіцца*. Значыць, для пачатку маем два справядлівыя выказванні. Першае: мова аказвае істотны ўплыў на форму і змест мастацтва, культуры. Другое: мова не аказвае ніякага ўплыву на матэматычныя ісціны. Але ўзнікае пытанне: а дзе мяжа, пачынаючы з якой мова пачынае або перастае ўплываць на вынік навуковых пошукаў? Ці праходзіць гэтая мяжа па найбольш складаных раздзелах матэматыкі, па фізічных, хімічных ведах, па архітэктуры, медыцыне, псіхалогіі, грамадскіх навуках? Як бачым, пытанне не такое простае, як здаецца.

Праўда ў канцы XIX ст. была зроблена спроба правесці такую мяжу. Дасюль засталіся сляды гэтай дэмаркацыі — падзел навук на прыродазнаўчыя і *грамадскія*. Але куды аднесці тэхніку, фізіялогію, псіхалогію? У XX ст. па меры развіцця тэорыі пазнання было прыкмечана глыбокае пранікненне суб'ектыўнасці ў прыродазнаўчыя і абстрактныя навукі. Зараз усё шырэй распаўсюджваецца меркаванне, што доля суб'ектыўнасці (мовы) нарастае паступова, з павелічэннем складанасці вывучаемага аб'екта.

Разгледзім спосаб пазнання не матэматычнага, а больш складанага — фізічнага аб'екта. Напрыклад, шарападобнасці зямлі. Ва ўсіх падручніках доказам яе шарападобнай формы з'яўляецца прыклад паступовага знікнення карабля за лініяй далягляду ў моры. Але гэты факт назірала мноства людзей. Чаму ж яны лічылі, што зямля плоская? Чаму не верылі сваім вачам? А таму, мусіць, што ў іх не было самой ідэі шарападобнасці.

Органы пачуццяў не адкрываюць чалавеку ніякай ісціны да таго часу, пакуль у галаве не з'явіцца адпаведная ідэя. Кант сцвярджаў: «Свет, як мы яго ведаем, з'яўляецца нашай інтэрпрэтацыяй фактаў назірання ў святле тэорый, якія мы самі вынаходзім». Гэты прыклад паказвае нам, што фізічныя доследныя веды ніколі не носяць абсалютнага характару, бо магчымы розныя інтэрпрэтацыі адных і тых жа фактаў, і любая ступень у пазнанні не можа быць абгрунтавана да канца.

Карціна свету Арыстоцеля без

тым б'ецца асабліва горача і аналітычна роздум нашай публіцыстыкі — у мінулагодніх артыкулах В. Быкава, З. Пазняка, В. Віткі, А. Лойкі, Н. Гілевіча, Б. Сачанкі, а з маладзейшых, у катэгарычных формах «рацыё» — С. Дубаўца.

Думаецца, справядлівыя нараканні на дамарослы нігілізм, самаахайванне С. Дубаўца, паганьбаванне творчасці многіх нашых старэйшын ды паэтаў, скажам, майго пакалення. Але ж ці не так і мы, дзеці XX і XXII з'ездаў партыі, насядалі, помню, на пяткі старэйшых, бачылі ў іх калабарантаў, угоднікаў таталітарнай сістэмы? Чаго ж мы хочам? Ці ўсё мы сёння робім, каб свае бясспрэчныя пагрэшнасці, сцішана-рабскія замоўчванні творча «адмаліць», неяк кампенсаваць прарывам да новага дыхання, новага нараджэння?

Нямала, вядома, і робіцца — пачытайце хаця б за мінулы год вершы С. Грахоўскага, А. Звонака, П. Панчанкі, М. Танка, Р. Барадуліна, П. Макаля, В. Зуёнка, Н. Гілевіча, С. Законнікава, А. Грачанікава, К. Цвіркі, Ю. Свіркі, В. Жуковіча, дый маладзейшых сяброў па пяру (даруйце, пра ўсіх іх шырэй я рыхтуюся сказаць асобна), ды дзіўна: публіцыстычны напал, які з належнай культурай асэнсавання ўрываецца ў іх творы, штось не даспадобы, скажам, таму ж С. Дубаўцу ці Л. Дранько-Майсюку. Яны прапаведуюць, як ратунак, «чысты» жанр... Але вось бяда: самі ў творчасці далёка не рэалізуюць на эстэтычным узроўні свае адцягнена-апрыёрныя пастулаты. Ёсць як бы валоданне майстэрствам (у сэнсе тэхнікі), а ўзораў няма.

С. Дубавец свядома спрабуе надаць сваім вуглавата-катэгарычным сцвярджэнням,рацыё-дэфініцыям як бы функцыю генератара ідэй, ва ўсякім выпадку — правакуе пошукі іх. І добра. У прынцыпе не новая ідэя Беларускага Шляху сёння акцэнтавана ім як кроўна-жыццёвая, найпершасная рэч, як адзінае збавенне («Падставы рацыянальнага нацыяналізму»). Зачакалася першароднага вяртання сэнсу не толькі паганьбаванае рознымі «звыш-інтэрнацыяналістамі» — асімілятарамі слова «нацыяналізм», але і доказнае тэарэтычнае абстаўленне гістарычнай правамернасці нашага Беларускага Шляху — хаця б і з выкарыстаннем дасведчана-мудрага асвячэння І. Абдзіраловіча — у яго не кожнаму вядомым «Адвечным шляху», гэтым Евангеллі Адраджэння. Такім Евангеллем, зрэшты, служыць (няхай паслужыць!) увесь шматмерны даробак і вопыт «Нашай Нівы», місію якой, няхай з яе і часова перарванай традыцыяй, на сучасным этапе ўзялася самаададана спаўняць наша газета «ЛіМ».

## Ігар ЖУК:

# «ВЯРНУЦЬ СЛЫХ ГРАМАДСТВУ»

Грамадства завяршыла адзін круг дэмакратыі. Надламаная вяршыня года ўжо ўказвае на раней пройдзеную метку XIX партканферэнцыі, і нават — на мернае спаўзанне галоснасці ў напрамку да 1985 года. Але нічога не знікае намарна, і надыдзе новы красавік (спадзяюся, што чаканне не здоўжыцца), і новы энергічны віток дэмакратызацыі пачне сваё больш рашучае разгортванне.

Што ў гэтых кругах літаратура? Яе развіццё, дзякаваць Богу, перастала слепа паўтараць зігзагі грамадскага развіцця. 1990-ы год для беларускай літаратуры — год, калі працягвала фарміравацца яе цела; яно яшчэ не злеплена да такой гарманічнай структуры, у якую можна было б удыхнуць жывую душу глыбіннага самапазнання. Верхні віток, мусіць-такі, яшчэ наперадзе.

Сённяшняя літаратурная сітуацыя нагадвае чымсьці мастацкі фільм з субцітрамі. Кожны з нас заўважыў недагаворанасць субцітра, недакладнасць, а то і ашчадлівы тэкст субцітравага перакладу. І, верагодна, кожны з нас поўніўся ў такіх выпадках спачуваннем да тых, каму недаступны гук. Зразумела, што тэхнічна інакш зрабіць быццам нельга, а вось не праходзіць адчуванне, што няпоўныя субцітры ў нечым маральна абразлівыя для глуханямых. І поруч з гэтым — яшчэ больш пранізлівае адчуванне: мы і самі жывём па законах такога кіно. Вакол нас багата субцітраў, яны паведамляюць, але не дагаворваюць.

Літаратура — не рэдактар, літаратура піша свой тэкст. Мастацкі твор мусіць сціраць абразлівую грымасу няпоўнага, недагаворанага, а то і фальшывага цітра з грамадскага аблічча, ён мусіць узяць на сябе маральную смеласць вярнуць «слых» грамадству. Тады гэта сумленна, тады гэта сапраўды найвялікшы наш скарб і набытак.

У гэтым сэнсе я вылучыў бы: а) «Споведзь» Л. Геніюш як амаль аўтэнтычнае супадзенне гуку і адлюстравання. Споведзь пасведчыла універсальны агульначалавечы закон: крывавая гісторыя пачынаецца тады, калі ў грамадстве запануе страшная звычка непавагі да гонару і годнасці чалавека, што ў канчатковым выніку прыводзіць да абясцэньвання чалавечага жыцця; б) дакументальную аповесць А. Сідарэвіча «Антон Луцкевіч», дзе прагненне ісціны яўна пераважае над эмацыянальна-рытарычным ладам выказвання. Галоўнае ж — у тым, што палітыка тут не падмяла пад сябе даследчыка, і жыць гэтаму твору доўга; в) раман В. Карамазава «Бежанцы». Самае цікавае тут — **што** ўзята для асэнсавання. А асэнсоўваецца надта спецыфічная і надта характэрная ф о р м а нацыянальнага б ы ц ц я. Народ, вымусова адарваны ад свайго краю, вечныя вандроўнікі «паязджане», бежанцы, народ амаль скрозь усю гісторыю на калёсах, ды яшчэ са свежай балючай памяццю пра Чарнобыль — надта сур'ёзная заяўка, каб яе не заўважыць.

Мы спыніліся ў ліхой пагоні, мы сунялі растрывожаны душэўны страх,—і гэта радуе. Але найчасцей мы акідваем позіркам прастору вакол, толькі зрэдку прабіваючыся ўглыб саміх сябе. А гэта некалькі засмучае.

## Люба ТАРАСЮК:

# «ДА НАС ПРАМАЎЛЯЕ ГІСТОРЫЯ»

Гісторыя ўжо не раз вучыла, што ацэнкі сучаснікаў могуць быць паспешлівыя і несправядлівыя, і толькі час усё ставіць на сваё месца. Таму не будзем самаўпэўненымі і безапеляцыйнымі.

Мінулы год беларускай літаратуры мне бачыцца ў шэрагу некалькіх апошніх яе гадоў. Гэта час вяртання. Не столькі стварэння, колькі вяртання. Вяртаюцца напаўзабытыя і недазволеныя раней імёны і творы, і адначасова ўсе мы вяртаемся да чагосьці сутнасна чалавечага і сутнасна мастацкага. Хачу адзначыць выхад факсімільнай «Дудкі беларускай» Францішка Багушэвіча, «Вяршыні жаданняў»— выбранае цудоўнага лірыка 20-х гадоў Валерыя Маракова, кнігу паэтычнай спадчыны Ларысы Геніюш «Белы сон» і яе дзённік у «Маладосці», «Споведзь» Сяргея Грахоўскага і ўсю праграму скарынінскіх юбілейных выданняў. Сюды ж варта далучыць дакументальную аповесць Анатоля Сідарэвіча «Антон Луцкевіч» у «Нёмане» і кнігу артыкулаў і эсэ Барыса Сачанкі «Сняцца сны аб Беларусі...»».

Усё больш упэўнена прамаўляе да нас гісторыя — далёкая і больш блізкая, ад Рагнеды і да Курапатаў. Гістарычны ракурс светабачання для нас пакуль што свежы. Але ўжо адчуваецца ў літаратуры мастацкая недастатковасць асэнсавання тэмы: мала філасофіі гісторыі, пераважае ілюстрацыя, асабліва ў паэзіі.

Заўсёды чакаю кніжачак з бібліятэкі «Маладосці». Яны нераўнацэнныя, але й нераўнадушныя (з пункту гледжання пазіцыі іх аўтараў): тут яшчэ можна чакаць навізны, тут ёсць надзея і мара, у той час як слынны сваім паэтычным вопытам пісьменнік часта піша па інерцыі і ўсё вядома наперад і загадзя. З паэтычных дэбютаў 1990 года ў бібліятэцы «Маладосці» вылучаюцца кнігі Людмілы Рублеўскай, Славаміра Адамовіча, Міхася Скоблы. Шкада толькі, што ў гэтай маладзёжнай серыі час ад часу друкуюцца далёка не дэбютанты (прызначэнне ж бібліятэчкі — падтрымліваць менавіта маладых на іх дарозе да першай кнігі ў выдавецтве). Адных толькі крытыкаў магу прапанаваць у планы на некалькі гадоў: Галіна Тычка, Ігар Жук, Пятро Васючэнка, Сяргей Дубавец, Алесь Бяляцкі, Алесь Бельскі, Алесь Бадак, Усевалад Рагойша (кніга пра А. Гаруна), Галіна Сачанка (артыкулы пра мастацтва)...

Ва ўсіх часопісах былі цікавыя эпізадычныя публікацыі паэзіі—асобныя жывыя астраўкі ў мёртвым моры мастацкай безгустоўнасці. Калі трэба нешта вылучыць спецыяльна, то я б вылучыла паэтычны ўзровень часопіса «Беларусь».

А пішу я гэта ўсё з настроем, які выказаў у той жа «Беларусі» Анатоль Сыс: «Мы — чарада самотных птахаў...». Разумны зразумее.

---

сілы прыцягнення рэзка адрозніваецца ад ньютанаўскай — той самай, у якой мы цяпер жывём. У будучым карціна свету можа і абавязкова змяніцца на іншую, больш універсальную. У незямных цывілізацыях, калі яны існуюць, фізічныя аб'екты апісваюцца інакш і даюць цалкам іншыя карціны свету. З-за складанасці фізічных аб'ектаў вобраз гэтых аб'ектаў у значнай меры залежыць ад мовы разумнага чалавека.

Калі б удалося ізаляваць зямныя мацерыкі на дастатковы час, то можна быць упэўненымі, што на кожным з іх развілася б свая светапоглядная фізічная тэорыя свету. Ад чаго б яна залежала ў першую чаргу? Ад мовы, якая бытуе на мацерыку. Вось як гэтую думку фармулюе адзін з вядучых сучасных філосафаў П. Файерабенд: «Тэарэтыкі, якія працуюць у розных традыцыях і ў розных краінах, будуць прыходзіць да тэорый, якія, адпавядаючы ўсім вядомым фактам, тым не менш будуць узаемна несумяшчальнымі».

Сцяна паміж тым, што ёсць у свеце, і тым, што прыдумана чалавекам, становіцца ўсё танчэйшай. У чым суб'ектыўнасць чалавека праяўляецца найбольш моцна? Калі адкінуць узрост і адукацыю, то — у мове, на якой чалавек думае і размаўляе. Сучасныя лінгвісты сцвярджаюць, што чалавек расчляняе свет у тым кірунку, які падказвае яму яго мова.

Чалавек валодае неймаверным жаданнем палепшыць і палегчыць сваё існаванне ў акаляючым варожым яму свеце. Для гэтага ён спрабуе пазнаць свет усімі даступнымі яму сродкамі і пачуццямі. А паколькі ўсе рэальныя фізічныя аб'екты і працэсы бясконца складаныя, то фармальных, матэматызаваных ведаў яму заўжды не хапае. Доля суб'ектыўнага моўнага фактара вялікая і ў тым выпадку, калі чалавек на аснове сваіх ведаў аб «устройстве» прыроды пачынае сам ствараць прыродападобныя аб'екты. Гэта і ёсць сфера тэхнікі. Паміж намерам стварыць які-небудзь тэхнічны аб'ект і яго рэалізацыяй ляжыць бясконцая колькасць прамежкавых ступеняў, у выглядзе асобных думак, неправяраральных гіпотэз, сродкаў, праграм і г. д. Вось чаму японская тэхніка адрозніваецца ад амерыканскай — на яе накладваецца японскі лад мыслення.

Англійскі лінгвіст Уорф піша, што не толькі граматыка, але і фанетыка мовы вызначае стыль мыслення. Такім чынам, наша беларускае «аканне» і «дзеканне» таксама ўплываюць на стыль жыцця і працы, на выніку навуковай і тэхнічнай творчасці. Стылі мыслення маюць нацыянальную афарбоўку незалежна ад таго — у сферы мастацтва ці ў сферы навукі працуе чалавек. Але інфармацыя аб свеце, як вядома, змяшчаецца не толькі ў мове. Яна «запісана» таксама ў чалавечых генах, пры гэтым — як самая ўстойлівая і важная для выжывання чалавека. Можна толькі здагадвацца, якое разбуральнае дзеянне аказваецца на чалавека, калі інфармацыя, закадзіраваная ў генах, і інфармацыя, запісаная ў мове, не супадаюць. Гэтай праблемай, дарэчы, займаўся адзін з ідэолагаў «трэцяга свету» Ф. Фанон. У сваёй кнізе «Чорная скура, белыя маскі» ён пераканаўча паказвае заганнасць псіхалогіі тых арабаў, якія цалкам пераймалі французскую культуру і мову. Да месца нагадаць і пра феномен янычарства. Прыклады беларускага «самаедства» прывесці таксама няцяжка. Кожная тэрыторыя з яе своеасаблівымі геаграфічнымі, кліматычнымі і гістарычнымі ўмовамі выпрацоўвае пэўны тып чалавека з яго мовай, на аснове якой фарміруецца ўся культура народа, пачынаючы з мастацтва і заканчваючы навукай і тэхнікай.

На пытанне, якая мова больш за ўсё падыходзіць вучоным і спецыялістам Беларусі, магчымы толькі адзін адказ — свая.

**П. БІЧ,**
кандыдат тэхнічных навук.

---

# ВІНШУЕМ!



## Захару БІРАЛУ—85

**Заўтра спаўняецца 85 гадоў пісьменніку, чалавеку нялёгкага лёсу, ахвяры сталінскага беззаконня Захару Біралу. «ЛіМ» віншуе Захара Якаўлевіча з юбілеем і зычыць яму моцнага здароўя, творчых поспехаў.**

# ПРЫГАДАЕМ...

### Чаго няма ў беларускіх календарах на 1991 год

**30.01.1884 г.** Нарадзіўся вядомы беларускі крытык і літаратуразнаўца Антон Навіна (Антон Луцкевіч). Радзіўся ў Шаўлях, вучыўся ў Лібаве, Менску, Пецярбурзе, удзельнічаў у стварэнні першых беларускіх палітычных партый Беларуская рэвалюцыйная, затым Беларуская сацыялістычная Грамада. У 1918 г. узначаліў на нейкі час Урад БНР, прадстаўляў Беларусь на Версальскай мірнай канферэнцыі ў Парыжы. У міжваенны час жыў і працаваў у Вільні, дзе кіраваў беларускім нацыянальным музеем і выкладаў беларускую літаратуру ў Віленскай беларускай гімназіі. У 1939 г. па неабгрунтаваным абвінавачванні рэпрэсіраваны, памёр у зняволенні.

●

**5.01.1891 г.** Нарадзіўся шырока вядомы на ніве беларускай культуры і асветы каталіцкі святар а. Адам Станкевіч. Родам з вёскі Арляняты на Ашмяншчыне. Скончыў духоўную семінарыю ў Вільні і духоўную акадэмію ў Пецярбурзе. Аўтар шматлікіх публіцыстычных і гістарычных прац па беларусазнаўстве. Змагаўся за адраджэнне беларускай мовы ў каталіцкіх святынях на Беларусі. Заўсёды сам вёў багаслужбу на беларускай мове. Выкладаў закон Божы ў Віленскай беларускай гімназіі, нейкі час быў яе дырэктарам. Асноўнае месца ягонае дзейнасці — Вільня. Па яго ініцыятыве на працягу дзесяцігоддзяў у Вільні выходзіла беларуская газета «Крыніца».

У працэсе вынішчэння беларускай інтэлігенцыі Віленскага краю пасля вайны стаў чарговай ахвярай ГУЛАГа, трапіў у Сібір і загінуў у Іркуцкай вобласці.

●

**20.01.1892 г.** Нарадзіўся беларускі вучоны і грамадска-палітычны дзеяч Браніслаў Тарашкевіч. Родам з-пад Вільні, з засценку Мацюлішкі. Вучыўся ў пачатковай школе і Віленскай гімназіі. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта.

Актыўны ўдзельнік беларускага руху. У гады вучобы ва універсітэце, але яшчэ ў Вільні цесна сышоўся з беларускім асяродкам, што існаваў вакол «Нашай Нівы». Вучоны-філолаг, стваральнік першай беларускай навукова апрацаванай граматыкі. Як грамадска-палітычны дзеяч змагаўся за правы беларускага насельніцтва ў польскім парламенце, будучы дэпутатам Сейма. Узначальваў масавую палітычную арганізацыю працоўных Заходняй Беларусі Беларуская Сялянска - рабочая Грамада. За сваю палітычную дзейнасць трапіў у польскую турму, але потым па абмене палітвязняў быў выменены савецкім урадам на драматурга Ф. Аляхновіча. У гады тэрору знішчаны сталінскім рэжымам: расстраляны ў 1938 годзе.

# ПРАЦА І ТОЛЬКІ ПРАЦА



## Уладзіміру НЯФЁДУ—75

Не сталым чытачам «ЛіМа», а маладым рупліўцам на ніве беларускай тэатральнай культуры мушу нагадаць некаторыя найбольш уражлівыя моманты жыцця і дзейнасці юбіляра. Мне вельмі хочацца, каб маладзейшыя, якія, вядома, пройдуць свой уласны шлях здабыткаў і памылак, улічылі і вопыт папярэднікаў — вопыт багаты, разнастайны, супярэчлівы... Менавіта такім мне ўяўляецца і вопыт Уладзіміра Іванавіча Няфёда.

Як і большасць людзей свайго пакалення, У. І. Няфёд з маленства спазнаў смак заробленага ўласным мазалём і потам хлеба. Цяжка вызначыць гэты смак дакладна, але пэўнае ў ім — адчуванне ўласнай годнасці: сам зарабіў. Гэта выхоўвае, гартуе характар, без якога нічога не зробіш у творчасці. Потым паехаў шукаць шчасця і долі ў Маскву. Тут Уладзіміра Няфёда, які меў у драўляным чамадане нізку сшыткаў з юнацкімі вершамі, прынялі вучыцца ў Маскоўскі дзяржаўны інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры імя М. Г. Чарнышэўскага. У 1940 г. атрымаў дыплом тэатразнаўцы і размеркаванне на працу ў Мінск. На старонках беларускіх газет, у тым ліку і ў «ЛіМе», з'явіліся першыя няфёдаўскія рэцэнзіі на спектаклі, замалёўкі творчых партрэтаў акцёраў і рэжысёраў, грунтоўныя артыкулы. З тае пары і пачаўся 50-гадовы творчы шлях тэатразнаўцы, крытыка, публіцыста, драматурга, педагога.

Цікаўныя могуць зазірнуць у чацвёрты дом Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі, там ёсць асноўныя звесткі: колькі і якіх прац выдаў, калі абараніў доктарскую дысертацыю, калі быў абраны членам-карэспандэнтам АН БССР, за якія працы атрымаў Дзяржаўную прэмію рэспублікі, калі стаў заслужаным дзеячам мастацтваў БССР і г. д. Праўда, з дня выхаду ў свет гэтага энцыклапедычнага выдання мінула чатыры гады, якія для Уладзіміра Іванавіча не прайшлі марна. Ён, як заўсёды, быў верны сабе, свайму характару — п р а ц а в а ў.

**Вось тут, няхай даруюць мне чытачы магчымае маралізатарства, не магу не падкрэсліць і не звярнуць увагу маладых творцаў — хочаце важкіх здабыткаў, перамог, прызнання — працуйце: пішыце п'есы і артыкулы, стаўце спектаклі, іграйце ролі (а калі перашкаджаюць — праяўляйце характар, змагайцеся, толькі не сядзіце і не чакайце «добрага дзядзьку»). Я мог бы прывесці шмат прыкладаў таго, як лянота, імкненне да хуткіх і лёгкіх здабыткаў «перакрэсліла» творчы лёс здольных рэжысёраў, акцёраў, драматургаў, крытыкаў. І сёння некаторыя здольныя пачаткоўцы не ўмеюць галоўнага — працаваць... Шкада. Страты могуць надарыцца вялікія, у тым ліку і для самога беларускага мастацтва.**

З таго часу, як У. І. Няфёд адзначыў сваё 70-годдзе, ён паспеў шмат чаго зрабіць. Па-першае, завяршыў галоўную, на маю думку, справу свайго жыцця — выдаў апошні, 3-ці том (у 2-х кнігах) «Гісторыі беларускага тэатра». Гэта калектыўная фундаментальная праца беларускіх тэатразнаўцаў пад кіраўніцтвам У. І. Няфёда не мае аналагаў у іншых саюзных рэспубліках. Але не было і няма прарока ў сваёй Айчыне! Сёння іншы раз можна пачуць, маўляў, у гэтай тэатральнай гісторыі не ўсё належным чынам асветлена, ёсць «белыя плямы», некаторыя дзеячы мінулага атрымалі не тыя «ацэнкі» і г. д. Так, ёсць «плямы», ёсць іншыя недакладнасці. Толькі, упэўнены, не гэта вызначае зробленую У. І. Няфёдам і яго калегамі працу. Галоўнае — наяўнасць акадэмічнай «Гісторыі беларускага тэатра», у якой з любоўю і пашанай занатаваны для нашчадкаў жыццёвыя і творчыя шляхі многіх сотняў артыстаў, рэжысёраў, драматургаў, крытыкаў, педагогаў, мастакоў, аматараў сцэны і іншых дзеячаў, якія працавалі ў тэатрах Беларусі, заклікалі шанаваць і любіць сваю Бацькаўшчыну.

У. І. Няфёд не ўмее спачываць на дасягнутым. Праца і толькі праца — гэта не проста яго дэвіз, гэта, як мне здаецца, філасофія жыцця Уладзіміра Іванавіча. І яна дае свой плён. Ужо праз год пасля выхаду ў свет апошняга тома «Гісторыі...», У. І. Няфёд кіруе выданнем грунтоўнай калектыўнай працы «Тэатр і жыццё: некаторыя праблемы тэатральнага працэсу ў Беларусі 70—80-х гадоў». У мінулым годзе выйшла ў свет яшчэ адна кніга У. І. Няфёда «Мікалай Кавязін. Жыццё і творчасць». Манаграфія прысвечана беларускаму рэжысёру Мікалаю Кавязіну, якога, на жаль, сёння мала хто памятае, а моладзь і зусім не ведае. Крыўдна.

На рабочым стале Уладзіміра Іванавіча гранкі новай кнігі — манаграфіі пра бацьку беларускага тэатра Ігната Буйніцкага. Такім чынам У. І. Няфёд ажыццявіў сваю даўнюю задуму: творчасць Буйніцкага ён вывучаў шмат дзесяцігоддзяў, сабраў літаральна па каліву багаты і унікальны матэрыял. Я думаю, што гэтую кнігу тэатральная грамадскасць рэспублікі сустрэне з асаблівай цікавасцю — у жніўні спаўняецца 130 год з дня нараджэння Ігната Цярэнцьевіча Буйніцкага.

Хто заўсёды працуе, той заўсёды малады. Не памятаю дакладна, хто гэта сказаў, але, згадзіцеся, сказаў трапна. У. І. Няфёду — 75. Па пашпарце. На самай справе, відаць, ён адчувае сябе маладым — поўны разнастайных творчых задум, распачаў новую кнігу. Гэта будзе манаграфія пра сучасную беларускую драматургію...

Рычард СМОЛЬСКІ.

# І ХРАМ, І МУЗЕЙ...

У канцэртнай зале Рэспубліканскага музея гісторыі рэлігіі, у так званай «Зімовай царкве», зноў гучыць музыка. Зала асветлена свечкамі, і толькі больш яркі прамень падае на раскрытае фартэпіяна і твар піяністкі. Выступае народная артыстка ЧСФР Дагмар Балагова; яна ўжо канцэртавала ў многіх краінах, цяпер — у СССР.

Дзівосная тэхніка і натхненне піяністкі пакарылі ўсіх у запоўненай зале. Яна выконвала класічную музыку: варыяцыі Бетховена, фантазію Шапэна, чэшскія танцы Сметаны. У другім аддзяленні канцэрта назвы твораў нават не аб'яўляліся, Дагмар проста іграла. Гэта былі цудоўныя творы Дэбюсі, якія ў нас не так часта выконваюцца: «Патанулы сабор», «Менестрэлі» і «Феерверк», а таксама «Два санеты Пятраркі» Ліста і два эцюды Паганіні — Ліста. Многія слухачы — выпускнікі і навучэнцы гродзенскіх музычных навучальных устаноў — пазнавалі гэтыя творы. Але і тыя, хто іх чуў упершыню, былі шчыра захоплены плынню музыкі. Не вельмі вялікае, скляпеністае памяшканне мае ідэальную акустыку. Гукі — грозныя і пяшчотныя, трапяткія, звонкія і ціхія, цэлыя каскады гукаў узмацняюцца ў гэтым будынку, гучаць так, што кранаюць сэрца кожнага...

Слухачы былі ўдзячны артыстцы, удзячны арганізатарам канцэрта. Да таго ж яны былі тут і наведнікамі музея: у той жа зале, калі запалілася святло, маглі паглядзець выстаўку акварэлі мастака В. Стратовіча — каларытныя пейзажы найпрыгожых мясцін нашага Прынямоння ва ўсе поры года. Можна было перайсці і ў залу «Летняй царквы», паглядзець выстаўку «Семантыка ў беларускай этнаграфіі», падзівіцца на беларускія нацыянальныя ўборы, самыя разнастайныя, на ўсе выпадкі жыцця; на прыгожы посуд; разгледзець па-мастацку выкананыя прадметы хатняга побыту, невялікі макет вясковай хаты, каля яе — калядаванне. Тут і разьба, кераміка; кожны прадмет мае сваё мэтавае або сімвалічнае значэнне: падкрэслена яго «семантыка». Раней у музеі была і другая, крыху падобная выстаўка: экспанаваліся творы літоўскіх мастакоў, прывезеныя з суседніх Друскенікаў. Бывалі тут і выстаўкі карцін польскіх мастакоў. Карціны мясцовых і некаторых іншагародніх мастакоў звычайна экспануюцца ў гродзенскім мастацкім салоне па вул. Э. Ажэшкі, у памяшканні, якое, на жаль, мала падыходзіць для карціннай галерэі. Але даўжэй за ўсё стаяла «агучаная» выстаўка званоў: пачынаючы з самых маленькіх і канчаючы вялікімі, самымі рознымі. І ўсе іх можна было паслухаць...

Праз колькі дзён пасля канцэрта Д. Балаговай для супрацоўнікаў музея і запрошаных быў наладжаны невялікі літаратурны вечар: чаргуючыся з музыкай, сугучнай часу жыцця паэтаў, гучалі вершы Пушкіна і Лермантава, Цютчава, Бальмонта і Буніна, Ясеніна і Маякоўскага, Гумілёва, Ахматавай і Цвятаевай, Мандэльштама і Пастэрнака, Еўтушэнкі. Чытала вершы мовазнаўца-русіст Н. Гарбачова. Дарэчы, для шырокай публікі рэгулярна ладзяцца і вялікія літаратурныя, а перадусім музычныя вечары (арганізуюцца супольна з Гродзенскай філармоніяй). Наладжваюцца і навуковыя канферэнцыі. Двойчы, напрыклад, адбыліся «Скарынаўскія чытанні». Запланаваны цыкл лекцый «Каляды ў кантэксце еўрапейскай культуры» з удзелам Мінскага дзяржаўнага камернага хору.

Невялікі, але высокакваліфікаваны калектыў навуковых супрацоўнікаў і экскурсаводаў Музея гісторыі рэлігіі пад кіраўніцтвам дырэктара Аляксандры Георгіеўны Зароўскай сабраў найкаштоўную калекцыю экспанатаў; многія з іх рэстаўрыраваны. (Частка экс-

# «...КУДЫ ВЯРТАЦЦА ПАСЛЯ ПРЭМ'ЕРЫ?»

**Мінула не так ужо шмат часу, як Міхаіл Кавальчык пакінуў пасаду галоўнага рэжысёра Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча, што ў Бабруйску, і падаўся ў Краснаярск; стаўшы на чале тамтэйшага тэатра музычнай камедыі, выпускае па тры-чатыры спектаклі ў сезон. Мінулым годам рэжысёра запрасіў Рускі тэатр БССР імя Максіма Горкага на пастаноўку спектакля «Нявеста з Імерэціі» (гэта, дарэчы, не першы ягоны спектакль на мінскай рускай сцэне). Наш карэспандэнт гутарыць з рэжысёрам пасля прэм'еры.**

— Міхаіл Станіслававіч, ці не маглі б вы растлумачыць цяпер ваш колішні раптоўны ад'езд з Беларусі?

**— Не раптоўны. Тэатр у Бабруйску ледзь ліпеў і ніякім чынам няможна было спадзявацца на ягоны росквіт: велізарная зала і шыкоўныя габелены — гэта яшчэ не тэатр. Я бачыў выйсце з крызісу ў вяртанні да старасвецкае формы тэатральнага існавання ў горадзе Бабруйску, а менавіта ў стварэнні музычна-драматычнага тэатра, які калісь вабіў публіку і меў параўнальна трывалы поспех. Трэба, урэшце, шанаваць гарадскія традыцыі, а Бабруйск, заўважце, выхаваны на аперэце. Дарэчы, ператварэнне вымагала няшмат высілак, і чаму марудзіла (і прамарудзіла) Міністэрства культуры, мне зразумець цяжка. Магчыма, не хацела парушаць прывідны тэатральны дабрабыт, тое адноснае «няблага», якім характарызавалі тэатр крытыкі? Але ў сваёй прапанове я абапіраўся на беларускую акцёрскую школу, дзе рэй вядзе так званы «сінтэтычны акцёр», спявак, плясун, дэкламатар... Тэатр прасіў першапачатковую суму, якую меўся вярнуць. Але грошай тэатру не далі. І раптам, як вы кажаце, з'яўляецца прапанова з Краснаярска, дзе ёсць тэатр і ўсё, што мне трэба для творчага існавання...**

— Чым адрозніваецца «краснаярская сітуацыя» ад бабруйскай?

**— Я б мог сказаць: усё адно, дзе быць, дзе працаваць, маўляў, наш адрас—Савецкі Саюз... Аднак мой цяперашні тэатр мае болей датацыі, мінімум на год — 415 тысяч; у мяне болей часу на пастаноўку новых спектакляў, няма ніякіх справаздач па гледачах, наведванні вёскі і іншых падобных паказчыкаў дзейнасці тэатра.**

— Сёе-тое з пералічанага скасавана і на Беларусі.

**— Разумееце, я пачуваюся там, як бы сказаць, раскута, незалежна... Мяняю звыклую эстэтыку тэатра аперэты і ніхто не замінае працаваць дзіўнымі пытанямі, накшталт: для чаго трэба ў драме шмат спяваць, а ў аперэце працаваць па законах драмы? Вось апошні выпадак: мае акцёры не захацелі мець у тэатры мастацкі савет, матывуючы тым, што менавіта мастацкі савет распачынае ў тэатры... спрэчку, звадку, якія шкодзяць працы. Мне сказалі, што да мяне, як да кіраўніка, яны маюць давер, і з мяне, як з даверанага кіраўніка, і спытаюць... Сёння тэатрам кіруюць галоўны рэжысёр, галоўны дырыжор і дырэктар, гэткая рэжысёрска-дырыжорская калегія. Знікла падстава, абапіраючыся на якую я мог і (што ўжо тут хаваць) схітраваць, перакласці адказнасць на ўсіх. Дарэчы (магчыма, вам гэта будзе цікава), у Маскве распачынае дзейнасць рэжысёрская асацыяцыя, я з'яўляюся членам яе прэзідэнцкага савета (прэзідэнт — Марк Захараў) па Сібіры. Мы займаемся выпрацоўкай палажэнняў аб пераводзе работнікаў тэатра на кантрактную сістэму. Павінен заўважыць, што кантрактная, чытайце — рыначная сістэма дачыненняў абавязкова мае на ўвазе беспрацоўе, лепей сказаць, незанятасць пэўнай часткі тэатральных творцаў. Магчыма, сістэма не самая добрая, калі са мной ладзіць кантракт горад, а я — з акцёрамі свайго тэатра. Ды мушу заўважыць, што ўзаемадачыненні рэжысёра і калектыву — гэта пакуль самая невырашальная праблема ў тэатры. Менавіта кантракт можа наблізіць яе вырашэнне.**

— Мне здаецца, што агульнасаюзныя дачыненні акцёр — рэжысёр і публіка — тэатр шмат дзе выпадковыя, нелагічныя і, можна сказаць, ніякія... Самой справе тэатральнай арганізацыі пагражае ўжо не заняпад — вынішчэнне. Але я б не хацела ганьбіць тутэйшую арганізацыю тэатральнае справы, яна ў нас не самая горшая...

**— Але ж і не самая лепшая. Ці не ва ўсіх тэатрах — адсутнасць лідэра з праграмаю ці хоць бы з цвёрдым намерам рабіць сваё, адметнае, адрознае; па-другое, сістэма тэатральнае справы збудавана так, што людзі ў тэатры займаюцца чым заўгодна, замест таго, каб усё аддаць рэпетыцыям і спектаклям. Станіслаўскі калісьці казаў, што тэатр пачынаецца з вешалкі, дык, па-мойму, маючы на ўвазе вешалку пры службовым уваходзе ў тэатр. Арганізацыйнае нядбайства, калі праца не сканцэнтравана на творчасці,— агульная бяда тэатраў, як і адсутнасць людзей, навучаных добра кіраваць тэатральнаю справаю. Што да Краснаярска, дык там**

панатаў ' была перададзена з Полацка). Тут ёсць аддзелы і стэнды па гісторыі ўсіх сусветных і многіх гістарычных рэлігій, усіх веравызнанняў Гродзеншчыны і рэспублікі. Можна ўбачыць і выданне «Псалтыра» Ф. Скарыны, і выданні розных рэлігійных кніг у мастацкіх вокладках, на розных мовах, рукапісы старадаўніх філасофскіх трактатаў, дакументы, звязаныя з жыццём цэркваў і манастыроў. Можна даведацца пра хвалюючую гісторыю беларускага вальнадумца Казіміра Лышчынскага. Тут і падрабязны макет сучаснага Ватыкана, прадметы каталіцкага культу, літургічнае адзенне, культавыя прылады ісламу і іудаізму, выданні баптыстаў, карціны, іконы, статуі, дыярамы. Асабліва шырокі і багаты аддзел праваслаўя. У музеі прадстаўлены таксама шэраг галаграм, макет батлейкі і шырока — беларуская народная прыкладная творчасць.

Рэспубліканскі музей гісторыі рэлігіі не раз'ядноўвае людзей, не падзяляе паводле рэлігійных перакананняў і веравызнанняў, хоць і паказвае адрозненні. Кожны наведвальнік, дарослы ці школьнік, тут можа атрымаць інфармацыю, пашырыць веды, а галоўнае, знайсці спажыву для сваіх пачуццяў і роздуму. Музей зрабіўся адметным асяродкам культуры. Ён аб'ядноўвае ўсіх, хто прыходзіць сюды, у храм рэлігіі, навукі і высокага мастацтва.

**Браніслава ВІЦ,**
**кандыдат гістарычных навук.**
г. Гродна.

---

**цудам зберaглася сапраўды руская акцёрская школа (чаго не скажаш пра беларускую акцёрскую школу, часткова вынішчаную, часткова страчаную). У Сібіры, на мой погляд, тэатры больш актыўныя творча, дый публіка неяк гуртуецца вакол іх, публіка, заўважу, не выпадковая. Хоць Мінск ёсць Мінск, ён, вядома, не ўся Беларусь, пра такі культурны ўзровень маглі б толькі марыць шмат якія сібірскія гарады.**

— Ці хацелі б вы працаваць на Беларусі цяпер, калі, здаецца, шмат змянілася з тых вашых бабруйскіх часоў?

**— Вы разумееце, мая ініцыятыва можа здзейсніцца толькі там, дзе ўва мне зацікаўлены. Калі б я не паехаў, мяне б праз колькі гадоў знялі з фармулёўкай прафесійнае няздары, бо даходзіла да таго, што мне адкрыта казалі: ты — рэжысёр? тым больш — галоўны?**

— Вы можаце сказаць, хто вінаваты ў тым, што на Беларусі ваш творчы лёс не спраўдзіўся шмат у чым?

**— Жах нашае сістэмы: я не магу назваць канкрэтных вінаватых; вінаваты, здаецца, усе — і міністэрства, і СТД, але, разам з тым, ніхто з іх канкрэтна і не вінаваты. У мяне няма ні злабы, ні помсты. Ды часцяком думаю: чаму спектакль мною робіцца там, а не дома? Пакуль, мне здаецца, на Беларусі, як і шмат дзе, катастрофа з рэжысёрскімі кадрамі. Дый, зразумейце, галоўнае для мастака — не дзе ставіць, у Мінску, Краснаярску ці Маскве (дзе, дарэчы, і вучыцца рэжысуры,— мяне. напрыклад, вучылі не толькі ў БДТМІ, але і Таўстаногаў у Ленінградзе, а аперэтачная класіка, якую я прапагандую, патрэбна паўсюль); са сваёй кваліфікацыяй я магу ставіць і ў Краснаярску, і ў Гданьску, і дзе-небудзь паміж Нью-Йоркам і Чыкага. Але вось пытанне: куды вяртацца пасля прэм'еры?..**

Інтэрв'ю ўзяла
Жанна ЛАШКЕВІЧ.

# Беларускае мастацтва з польскіх сховаў

У канцы мінулага — пачатку гэтага года ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР праходзіла выстаўка «Мастацкія тканіны XVIII—XIX стст.». Яна была арганізавана Дзяржаўным зборам твораў мастацтва на Вавелі (Кракаў) у рамках супрацоўніцтва з ДММ БССР. Матэрыял для яе прадаставілі зборы Кракава, Варшавы, Венграва, Лодзі, Познані.

Прадметы, што экспанаваліся, былі створаны ў асноўным на Беларусі. Тым больш выстаўка павінна была б выклікаць вялікую цікавасць, але гэтага не здарылася. Не з-за якасці выстаўкі, хоць яна непазбежна няроўная, а з-за якасці жыцця, якое патушыла ў «шырокіх масах» цікавасць да мастацтва. Выстаўка няроўная і таму, што прадстаўляе ўвесь тэкстыль — ад паяскоў сялянскага адзення да галуноў трона Станіслава Аўгуста Панятоўскага; і таму, што такое «фасаднае» XVIII стагоддзе — царственны габелен з «Гісторыі роду Радзівілаў» і бясхітрасны дыван, прататып вясковых «маляванак» пазнейшага часу; і таму, што цэнтры, прадукцыя якіх прадстаўлена (Бяла Падляска, Гродна, Карэлічы, Нясвіж, Слонім, Слуцк), нягледзячы на шэраг першакласных твораў, усё-такі былі еўрапейскай і геаграфічнай, і мастацкай перыферыяй. І як мала захавалася ў бурах, якія бушавалі ў Рэчы Паспалітай і яе асколках з нязначнымі зацішшамі. Але ўсё ж адчуванне ад выстаўкі — выдатныя былі часы! З-пад цьмянага колеру тканіны праяўляюцца нецяперашнія грацыя і вытанчанасць. Прадметы побыту, як ніштo іншае, авяваюць дыханнем мінулых часоў. Цудоўны габелен «Агляд літоўскі войскаў пад Заблудавым» цяпер мае каларыт вячэрніх восеньскіх палёў, што надае яго бравурнасці меланхалічную прыгажосць. Цудоўныя тры габелены з серыі «Антычныя статуі», хоць імітуюць скульптуру і мармур, але гэта імітацыя як прыём, як ігра. Грызайль светла-вохрыстых і шэрых адценняў, гірлянды бляклых колераў пры агульнай манументальнасці кампазіцый і форм — «змоpанае» барока. Зачароўвае як міраж. Перл выстаўкі — 21 слуцкі пояс. Па волі разнастайных праяў злога лёсу Беларусь валодае мізэрнай колькасцю гэтых праслаўленых рэчаў. У 1927 г. у Мінску была першая і адзіная выстаўка паясоў, каталог якой сведчыць, што і тады становішча было такое ж сумнае. Так што цяперашні паказ — з'ява выключная па колькасці і дасканаласці прадстаўленых узораў. Золата- і сярэбратканыя, якія з'яўляліся прадметам напышлівай раскошы шляхты, яны здзіўляюць стрыманай высакароднасцю прыгажосці. Халодная вытанчанасць усходніх прататыпаў змякчалася прастадушшам народнай эстэтыкі і асаблівасцямі мясцовага густу. Узор вышыўкі—антэпедыумы з выявамі св. Барбары, св. Антонія, св. Францыска. Пры незвычайным майстэрстве і гусце, што праявіліся ў гэтых рэчах, нельга не адчуць подыху эклектыкі — медальён з выявай паўтарае габелен, а буйная расліннасць вакол яго «знята» з барочных пышных тканін.



Патрэбная дэталь выстаўкі — партрэты (са збору ДММ БССР) тых, па чыёй волі і намаганнямі квітнела, хоць і нядоўга, прафесійнае ткацтва на беларускай частцы Рэчы Паспалітай — Станіслава Аўгуста Панятоўскага, апошняга караля Польшчы, Ганны Радзівіл з Сангушак, Міхаіла Казіміра Радзівіла «Рыбанькі», Міхаіла Казіміра Агінскага.

**В. ВАЙЦЯХОЎСКАЯ.**

**ПРЭМ'ЕРЫ**

# «ВАКОЛ КАХАННЯ»

**Не шукайце такую назву сярод твораў І. Штрауса, Ф. Легара, Ж. Афенбаха ці І. Кальмана. Зрэшты, музыка ўсіх чатырох славутых кампазітараў тут гучыць. Гэтаксама як і фрагменты з аперэт іншых аўтараў: Р. Планкета, С. Джонса, П. Абрахама, І. Фрымля...**

**«Вакол кахання» — назва новай работы Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР, вызначанай як рэвю-мазаіка і складзенай з лепшых набыткаў «лёгкага» жанру. У аснове спектакля сцэны, арыі, дуэты з аперэт, якія не ставіліся на мінскай сцэне ці ставіліся досыць даўно. А драматургічна знітаваў усе гэтыя разнаітыя старонкі аўтар лібрэта, пастаноўшчык і харэограф, народны артыст БССР С. Дрэчын. Над спектаклем працавалі таксама дырыжоры Г. Аляксандраў і С. Бурак, мастакі У. Жданаў і В. Жалонкіна, асістэнт балетмайстра А. Рымашэўскі.**

**«Вакол кахання» — парад вядучых салістаў, што адлюстроўваецца і ў гэтым «фотарэвю».**

**С. Б.**

Фота Ул. КРУКА.







# СТАЛІ СТЫПЕНДЫЯТАМІ

**Савецкі і Беларускі фонды культуры падвялі вынікі конкурсу на званне стыпендыята 1991 года**

Падтрымаць даравітую моладзь, садзейнічаць развіццю талентаў — такую высакародную мэту паставілі перад сабой арганізатары конкурсу. Стаць стыпендыятамі мелі магчымасць навучэнцы і студэнты, члены творчых саюзаў, мастацкіх калектываў, грамадскіх арганізацый — маладыя людзі, якім не болей за 35 год.

Савецкі фонд культуры ўстанавіў для кожнай рэспублікі стыпендыю ў памеры 150 рублёў. Па рэкамендацыі Беларускай асацыяцыі жанчын-пісьменніц пры Саюзе пісьменнікаў БССР яе атрымала паэтэса Галіна Булыка. Апошнія публікацыі ў часопісах «Полымя» і «Беларусь» сведчаць аб глыбіні яе паэтычнай думкі і вобразаў, імкненні да гармоніі верша і свету. Праз мастацкае слова праступае і грамадзянская пазіцыя паэтэсы, якая адчувае сябе дачкой беларускага народа, раздзяляе яго лёс.

Стыпендыя Беларускага фонду культуры (100 рублёў) падтрымае таленавітага даследчыка нашай гістарычнай спадчыны, трыццацігадовага празаіка Віктара Чаропку. Чытачы ведаюць яго па шэрагу эсэ, што друкаваліся ў часопісах «Маладосць», «Крыніца». Выдавецтва «Мастацкая літаратура» прыняло ягоны раман пра Клецкую бітву «Храм без бога». Але часцей за ўсё яго гістарычна-мастацкія эсэ можна сустрэць на старонках часопіса «Спадчына», па прапанове якога Віктар прымаў удзел у конкурсе.

Паэты, перакладчыкі, рэжысёры і фотамастакі — не пералічыць усіх дастойных удзельнікаў своеасаблівага творчага спаборніцтва. Вельмі цяжка было вылучыць сярод іх лепшых. Так камісія Беларускага фонду культуры вырашыла падзяліць другую стыпендыю (таксама 100 рублёў) паміж двума прэтэндэнтамі на атрыманне ганаровага звання.

Па рэкамендацыі прэзідыума праўлення Брэсцкага абласнога аддзялення БФК званне стыпендыята прысуджана дырэктару Бобрыкаўскага цэнтральнага сельскага Дома культуры Пінскага раёна Наталлі Шамяціле. Яна праводзіць вялікую арганізацыйную работу па захаванні і развіцці мясцовых народных традыцый і промыслаў у рамках праграмы «Спадчына». Наталля прымае актыўны ўдзел у адраджэнні народных абрадаў, правядзенні свят вёскі «Мелодыі і фарбы роднага краю», кірмашоў «Гасцінцы восені» і іншых мерапрыемствах.

У сёлетнім годзе стыпендыятам БФК будзе і студэнт І курса аддзялення інтэр'ера і абсталявання Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута Пётр Стахвюк. Ён прыехаў вучыцца ў Мінск з Беластока па накіраванні Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Пётр пасля заканчэння інстытута марыць працаваць на карысць беларускай культуры, на Беласточчыне.

Арганізатары конкурсу спадзяюцца, што невялікая, але бескарыслівая дапамога фондаў культуры будзе спрыяць станаўленню і развіццю талентаў маладых — тых, хто прызваны ўзбагачаць культуру роднага народа сёння і заўтра.

**В. КУДРАЎЦАВА.**

ПРАЕКТ

# СТАТУТ

## БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ГРАМАДЫ

Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада (БСДГ, Грамада), утвораная ў 1903 годзе пад назвай «Беларуская Сацыялістычная грамада» (у 1918 г. — «Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Партыя»), узнаўляе сваю дзейнасць на новай аснове і ў адпаведнасці з наступным Статутам.

### 1. Агульная частка

БСДГ — добраахвотная палітычная арганізацыя, якая аб'ядноўвае грамадзян Беларусі для ажыццяўлення сапраўднага народаўладдзя, сацыяльнай справядлівасці і дзяржаўнай незалежнасці рэспублікі.

БСДГ дзейнічае згодна з Канстытуцыяй БССР і Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Беларускай ССР аб дзяржаўным суверэнітэце БССР, на падставе Праграмы і Статута БСДГ.

БСДГ супрацоўнічае з усімі дэмакратычнымі партыямі, аб'яднаннямі і рухамі Беларусі і іншых краін на прынцыпах незалежнасці, роўнасці, неўмяшання ва ўнутраныя справы адзін другога.

### 2. Мэты БСДГ і метады яе дзейнасці

Асноўнымі сваімі мэтамі БСДГ ставіць:

— стварэнне гуманнага, дэмакратычнага грамадства на аснове шматукладнай эканомікі і разнастайнасці палітычных структур;

— прававую і сацыяльную ахову чалавека працы;

— сцвярджэнне прынцыпаў свабоды асобы, сацыяльнай справядлівасці і маральнай салідарнасці;

— адраджэнне асноў духоўнасці, здаровых, народных пачаткаў жыцця, такіх адвечных, натуральных чалавечых каштоўнасцей, як сям'я, дом, добрасуседства, працалюбства;

— дасягненне і адстойванне палітычнай незалежнасці Беларусі як раўнапраўнага члена еўрапейскай і сусветнай супольнасці;

— мінімалізацыю вынікаў чарнобыльскай катастрофы, аздараўленне экалагічнай сітуацыі ў рэспубліцы;

Для дасягнення сваіх мэт БСДГ:

— дзейнічае дэмакратычным шляхам, цывілізаванымі метадамі, адмаўляючы прымус і гвалт як сродкі дасягнення пастаўленых мэт, выступае за ўдасканаленне грамадства шляхам рэформаў;

— заахвочвае і арганізуе сваіх сяброў да дзейнага грамадска-палітычнага жыцця;

— актыўна ўдзельнічае ў выбарах прадстаўнічай улады ўсіх узроўняў;

— мае свае сродкі масавай інфармацыі.

### 3. Прынцыпы дзейнасці БСДГ

БСДГ дзейнічае на прынцыпах:

— выбарнасці ўсіх кіруючых органаў Грамады з забеспячэннем прамога і тайнага галасавання;

— галоснасці ў рабоце арганізацый Грамады ўсіх узроўняў, а таксама яе форумаў;

— незалежнасці грамадаўскіх сродкаў масавай інфармацыі ад выканаўчых органаў БСДГ;

— магчымасці функцыянавання пры ўсіх грамадаўскіх арганізацыях дыскусійных клубаў;

— гарантыі правоў меншасці.

Сябрам БСДГ, што засталіся ў меншасці:

— прадастаўляецца свабода стварэння груп і фракцый;

— надаецца права паўторнага вынясення спрэчных пытанняў на разгляд партыйных форумаў;

— гарантуецца магчымасць выкласці свае погляды ў друку БСДГ.

Рашэнні, прынятыя грамадаўскай арганізацыяй у межах яе кампетэнцыі, не могуць быць адменены вышэйшым (вышэйстаячым) органам БСДГ.

Свабодная ўнутрыпартыйная дыскусія — асноўны механізм выяўлення, супастаўлення і збліжэння меркаванняў сяброў Грамады.

### 4. Сяброўства ў БСДГ

Сябрам БСДГ можа быць кожны грамадзянін Беларусі незалежна ад прафесіі і сацыяльнага становішча, нацыянальнай прыналежнасці, веравызнання, які дасягнуў 18-гадовага ўзросту, не належыць да іншых палітычных партый і:

— прызнае і адстойвае ідэі і прынцыпы беларускага сацыял-дэмакратычнага руху, Праграму і Статут БСДГ;

— знаходзіцца на партыйным уліку;

— плаціць сяброўскія складкі;

— падтрымлівае Грамаду асабістай дзейнасцю.

Сяброўства ў Грамадзе несумяшчальнае з прапагандай таталітарызму, нацыянальнай і класавай выключнасці, з рэлігійнай і ідэйнай нецярпімасцю, заклікамі да гвалту.

Прыём новых сяброў БСДГ адбываецца на сходзе суполкі або пасяджэнні акруговай рады, у прысутнасці кандыдата, на падставе яго заявы і рэкамендацыі аднаго з сяброў суполкі або рады.

Новы сябар БСДГ рэгіструецца ў суполцы або акруговай філіі, запаўняючы рэгістрацыйную картку, а партыйнае пасведчанне атрымлівае на пасяджэнні акруговай, а пры адсутнасці такой — Цэнтральнай Рады БСДГ.

Сябры БСДГ будуюць свае ўзаемаадносіны на прынцыпах таварыскасці і даверу і маюць неад'емнае права:

— выбіраць і быць выбранымі ва ўсе органы Грамады;

— браць удзел у сходках суполкі, у мерапрыемствах і акцыях Грамады;

— браць удзел у вызначэнні палітыкі Грамады, прапаноўваць змены ў яе Праграме і Статуце, выказваць і абараняць сваю думку;

— атрымліваць інфармацыю, якая ёсць у распараджэнні грамадаўскіх органаў;

— звяртацца з запытаннямі, заявамі і прапановамі ў кожны орган Грамады і атрымліваць абгрунтаваны адказ;

— атрымліваць падтрымку ад органаў БСДГ у выпадку неабходнасці абараніць свае правы і законныя інтарэсы;

— удзельнічаць у пасяджэнні любога органа Грамады, на якім абмяркоўваюцца іх прапановы або дзейнасць;

— карыстацца падтрымкай Грамады на выбарах прадстаўнічых органаў улады ўсіх ступеняў;

— не выконваць партыйныя рашэнні, якія яны не падтрымліваюць, калі гэта не звязана з выкананнем службовых абавязкаў у Грамадзе;

— арганізоўваць групы (фракцыі), якія аб'ядноўваюць сяброў Грамады, што маюць асобны пункт гледжання па любым пытанні палітыкі і практычнай дзейнасці БСДГ;

— свабодна выбіраць для сябе грамадаўскую суполку або ствараць новую;

— выйсці з Грамады па асабістай заяве, спыніўшы ўплату сяброўскіх складак.

Сябры БСДГ абавязаны:

— быць зарэгістраванымі ў адной з арганізацый Грамады;

— прытрымлівацца палажэнняў Праграмы і выконваць Статут БСДГ;

— несці адказнасць за выкананне ўзятых на сябе абавязкаў;

— не перашкаджаць выкананню прынятых рашэнняў, якія яны не падтрымліваюць;

— весці (па магчымасці) работу па прапагандзе мэт і задач БСДГ;

— пацвярджаць сваё сяброўства (знаходжанне) у Грамадзе ўплатай штомесячнай сяброўскай складкі памерам 1% ад месячнага заробку. Рашэннем суполкі малазабяспечаныя сябры БСДГ могуць вызваляцца ад уплаты сяброўскіх складак.

Знаходжанне ў БСДГ прыпыняецца або спыняецца сходам суполкі, калі сябра Грамады не прытрымліваецца Праграмы і Статута БСДГ.

Сябра БСДГ можа абскардзіць рашэнне аб прыпыненні або спыненні свайго знаходжання ў Грамадзе перад вышэйшым органам БСДГ або З'ездам.

### 5. Агульныя прынцыпы арганізацыйнай структуры БСДГ

БСДГ складаецца з суполак, якія ўзаемадзейнічаюць паміж сабою на прынцыпах салідарнасці і супрацоўніцтва.

Цэнтральнымі органамі БСДГ з'яўляюцца З'езд, Цэнтральная Рада (варыянт: Цэнтральны Палітычны Камітэт), Выканаўчы Камітэт (варыянт: Прэзідыум);

тэрытарыяльнымі — сход суполкі канферэнцыя акруговай філіі, рада акруговай філіі.

Дэлегаты на З'езд і іншыя ўсепартыйныя і тэрытарыяльныя форумы выбіраюцца таемным галасаваннем простай большасцю галасоў.

Пасяджэнні грамадаўскіх органаў правамоцныя, калі на іх прысутнічае не меней за 2/3 сяброў органа або паўнамоцных дэлегатаў. Рашэнні гэтых органаў прымаюцца простай большасцю галасоў. Іншыя выпадкі агавораны гэтым Статутам асобна.

Органы БСДГ выбіраюцца таемным галасаваннем і справаздачныя перад сваімі выбаршчыкамі (перад органамі, што іх выбралі).

### 6. Суполкі БСДГ

Асноўнай арганізацыйнай структуры БСДГ з'яўляюцца суполкі, якія налічваюць не менш як 3-х сяброў і ствараюцца па тэрытарыяльным прынцыпе. Аднак там, дзе іншыя партыі арганізаваны паводле вытворчага прынцыпу, сябры Грамады маюць права ствараць суполкі на прадпрыемствах, ва ўстановах, у войску, органах праваапарадку і г. д.

Для арганізацыі сваёй дзейнасці сход суполкі выбірае старшыню, скарбніка, а пры неабходнасці — раду. Старшыні суполак могуць удзельнічаць у пасяджэннях акруговых радаў з правам дарадчага голасу.

Суполка самастойна вызначае формы і характар сваёй дзейнасці ў межах Статута і Праграмы БСДГ, падтрымлівае сувязі з суседнімі і вышэйшымі грамадаўскімі арганізацыямі, рэгіструе сваіх сяброў.

Суполкі рэгіструюцца ў акруговых радах, а пры адсутнасці іх — у Цэнтральнай Радзе.

### 7. Філіі БСДГ

Для каардынацыі сваёй дзейнасці суполкі БСДГ, размешчаныя на тэрыторыі парламенцкай выбарчай акругі, аб'ядноўваюцца ў акруговыя філіі, якія самастойна вызначаюць змест і характар дзейнасці філіі ў межах Праграмы і Статута Грамады.

Акруговыя філіі з'яўляюцца юрыдычнымі асобамі, маюць рахунак у банку, пячатку і інш.

Найвышэйшы орган акруговай філіі — штогадовая канферэнцыя.

Нечарговая канферэнцыя можа склікацца патрабаваннем 1/3 суполак або 1/5 сяброў філіі.

Канферэнцыя выбірае раду філіі, яе старшыню, скарбніка, рэдактара друкаванага органа філіі, а пры неабходнасці — камісіі.

Рада філіі:

— справаздачная перад канферэнцыяй філіі;

— каардынуе работу суполак у перыяд паміж канферэнцыямі;

— арганізуе працу па выкананні пастаноў канферэнцый, З'езда, Цэнтральнай Рады БСДГ і яе Выканаўчага Камітэта; склікае канферэнцыі і рыхтуе іх правядзенне.

Старшыня рады філіі арганізуе дзейнасць рады і склікае яе пасяджэнні, прадстаўляе філію ў дзяржаўных органах і грамадскіх арганізацыях свайго рэгіёна, падпісвае ад яе імя дакументы (фінансавыя — сумесна са скарбнікам).

Акруговыя філіі пэўнага рэгіёна (вобласці, горада і інш.) для каардынацыі сваёй дзейнасці, асабліва ў часе выбараў, могуць ствараць каардынацыйныя органы, самастойна вызначаючы іх структуру і спосаб фарміравання.

### 8. З'езд БСДГ

**Вышэйшым рашаючым органам БСДГ з'яўляецца З'езд, які склікаецца не радзей як 1 раз на два гады (варыянт: на 3 гады).**

**Рашэннем Цэнтральнай Рады БСДГ, або патрабаваннем не меней чым 1/3 філіяў ці 1/5 суполак Грамады склікаецца нечарговы З'езд БСДГ.**

**Нормы прадстаўніцтва на З'ездзе, месца і час яго правядзення вызначае Цэнтральная Рада БСДГ або Арганізацыйны камітэт і паведамляе філіям або суполкам не пазней чым за месяц да вызначанага тэрміну З'езда.**

**З'езд правамоцны, калі ў ім удзельнічае не менш як 2/3 дэлегатаў. Праграма, Статут, а таксама змены ў іх прымаюцца не менш як 2/3 зарэгістраваных дэлегатаў, пастановы па іншых пытаннях — простай большасцю галасоў.**

**Дэлегаты на З'езд выбіраюцца на падставе прамых, роўных, таемных выбараў, у тым ліку і па фракцыях, пры свабодным вылучэнні і самавылучэнні кандыдатаў.**

**З'езд БСДГ:**

**— прымае Праграму і Статут Грамады, уносіць у іх змены і дапаўненні;**

**— абмяркоўвае і вырашае важнейшыя пытанні дзейнасці Грамады;**

**— вызначае колькасны склад Цэнтральнай Рады БСДГ і выбірае яе сяброў, а таксама кааптуе ў Цэнтральную Раду 1/5 яе складу з выбраных прадстаўнікоў ад рэгіёнаў і старшыню парламенцкай фракцыі Грамады;**

**— выбірае трох старшынь Цэнтральнай Рады БСДГ;**

**— выбірае галоўнага рэдактара цэнтральнага друкаванага органа Грамады;**

**— заслухоўвае справаздачу Цэнтральнай Рады, ацэньвае яе дзейнасць і адмяняе, пры неабходнасці, яе рашэнні, канчаткова вырашае спрэчныя пытанні пра сяброўства ў Грамадзе;**

**— заслухоўвае справаздачу старшыняў Цэнтральнай Рады, старшыні Кантрольна-Рэвізійнай Камісіі і ўсіх выбраных ранейшым З'ездам асоб;**

**— выбірае спецыяльныя камісіі (мандатную, кантрольна-рэвізійную і інш.);**

**— выбірае старшыняў пастаянных камісій Прэзідыума Цэнтральнай Рады;**

**— вырашае іншыя пытанні жыцця і дзейнасці Грамады.**

**У перыяд паміж з'ездамі рашэннем Цэнтральнай Рады, па ініцыятыве 1/3 філіяў або 1/5 суполак праводзіцца ўсепартыйны Рэферэндум для вырашэння асабліва важных праблем і пытанняў у жыцці Грамады, у тым ліку і тых, па якіх не змог прыняць рашэння З'езд.**

**Рэферэндумы на такіх жа ўмовах могуць праводзіцца і ва ўсіх ніжэйшых грамадаўскіх арганізацыях.**

### 9. Цэнтральная Рада БСДГ

Вышэйшым органам Грамады ў перыяд паміж з'ездамі з'яўляецца Цэнтральная Рада БСДГ.

Цэнтральная Рада БСДГ:

— разглядае і вырашае важныя пытанні дзейнасці БСДГ, якія не належаць да выключнай кампетэнцыі З'езда;

— фармуе свой выканаўчы орган — Прэзідыум;

— вызначае штогадовы бюджэт БСДГ;

— выбірае скарбніка Цэнтральнай Рады і кіраўніка гаспадарча-фінансавага аддзела;

— фармуе пастаянныя і часовыя камісіі;

— заслухоўвае і прымае справаздачы Прэзідыума, кіраўніка гаспадарча-фінансавага аддзела, старшыняў камісій і прадстаўнікоў іншых органаў Грамады;

— прыпыняе дзеянне пастаноў філіяў Грамады, што супярэчаць Праграме і Статуту БСДГ;

— большасцю ў 2/3 ад свайго складу прыпыняе дзейнасць старшыняў Цэнтральнай Рады тэрмінам на 1 месяц, на працягу якога мае быць скліканы надзвычайны З'езд Грамады для вырашэння пытання аб перавыбарах старшыняў або Цэнтральнай Рады.

# «ПРАВОСЛАВНЫЙ — ЗНАЧИТ РУССКИЙ»?

У 48-м нумары «ЛіМа» за 30.XII.90 г. быў змешчаны ліст Арлова, Барадуліна, Купавы і Марачкіна наконт будучага аблічча рэстаўрыруемай Святадухаўскай царквы Куцеінскага Багаяўленскага манастыра ў Оршы. Пытанне, закранутае ў лісце, куды больш складанае, чым здаецца на першы погляд. Аднак трэба канстатаваць, што гэта, на жаль, ужо не «першы трывожны званок», як пішуць аўтары ліста. Калі ў Оршы яшчэ практычна не прыступалі да рэстаўрацыйных работ, то ў Віцебску на Пакроўскай царкве яны ўжо заканчваюцца. Не буду апісваць усіх акалічнасцяў, звязаных з рэстаўрацыяй гэтага помніка, напомню толькі, што размова ідзе пра касцёл былога Трынітарскага кляштара, які потым стаў Пакроўскай царквой (у XIX ст.), які ў наш час (80-я гады) стаў першай ластаўкай у адраджэнні помнікаў архітэктуры старажытнага і знявечанага горада. Напомню таксама, што ад знішчэння гэты помнік уратавала самаадданая праца клуба «Узгор'е», сябры якога на адным энтузіязме, без дапамогі гарадскіх улад, без дапамогі той жа праваслаўнай абшчыны, на працягу некалькіх месяцаў прыходзілі сюды пасля працы і чысцілі ад смецця і бруду руіны. Потым была распрацавана праектная дакументацыя, пасля чаго пачалася ўжо непасрэдна сама рэстаўрацыя будынка з прыстасаваннем яго пад цэнтр беларускай культуры. І вось калі ўжо ў Віцебску ўсвядомілі, што помнік будзе жыць, на арэну падзей выходзіць Праваслаўная царква, якая просіць перадаць увесь комплекс утворанай абшчыне.

Гарадскія ўлады, якія былі не надта ахвочыя займацца пытаннямі рэстаўрацыі, бо яшчэ ў 1985 годзе збіраліся сцерці помнік з твару зямлі, без асаблівых пярэчанняў аддаюць кляштар і касцёл праваслаўным. Праўда, на старонках мясцовай прэсы перад гэтым было наладжана абмеркаванне праблемы. І вось ва ўсёй гэтай гісторыі клуб «Узгор'е» выступіў за стварэнне цэнтра беларускай культуры і адпаведна супраць перадачы храма вернікам, імкнучыся на той момант сканцэнтраваць увагу праваслаўнай абшчыны на іншым аб'екце. Але ж у рэшце рэшт праваслаўныя храмы атрымалі і ўжо сваімі сіламі і на свой густ пачалі працягваць узнаўленне. Чаму ж тады клуб «Узгор'е», які здолеў выратаваць помнік ад знішчэння, не ўмяшаўся, каб адстаяць сапраўдны ягоны выгляд? Так, не ўмяшаўся, бачачы, як цесна пасябравалі і гарвыканком і настаяцель Пакроўскай царквы а.Мікалай Каляда.

Дальбог, здаецца, што гісторыя сапраўды паўтараецца. Узгадайма XIX ст., калі пасля скасавання Уніі Праваслаўная царква, выконваючы імперскія вялікадзяржаўныя планы царскага ўрада ў дачыненні да «Северо-Западного края», ішла ў авангардзе русіфікацыі, і беларусы не толькі павінны былі забыцца, на якой мове звяртацца да Бога, але і наогул не бачыць ніякіх прыкмет Уніі, а значыць і сваёй культуры. Новыя гаспадары былых уніяцкіх храмаў пачынаюць падганяць іхні знешні выгляд пад праваслаўны канон. Новая, больш моцная хваля русіфікацыі пасля падаўлення паўстання 1863—64 гг. пакрыла амаль усю Беларусь так званымі «мураўёўкамі» — праваслаўнымі цэрквамі ў псеўдарускім стылі.

А што мы назіраем зараз? Варта было заварушыцца адраджэнню нацыянальнай самасвядомасці, як для Праваслаўнай царквы былі адкрыты ўсе шлюзы, бо ведаюць пэўна ж чыноўнікі, якія погляды выспавядаюць духоўныя праваслаўныя пастары.

Неяк адзін знаёмы мастак, прагульваючыся ўвечары каля Пакроўскай царквы, быў запрошаны а. Мікалаем на кубачак гарбаты ў апартаменты віцебскай рэзідэнцыі архіепіскапа Дзімітрыя, якія месцяцца ў будынку былога кляштара. Аднак быў ён там ужо не першы: у пакойчыку, папіваючы гарбату і мірна ведучы гутарку з царкоўнымі іерархамі, сядзелі маладыя хлопцы з «Отечества». Той жа а. Мікалай неяк спрабаваў даказаць мне, што не варта дзяліцца на беларусаў, украінцаў, рускіх, мы, маўляў, адзіны славянскі народ, і згуртавацца павінны пад адным сцягам... бел-сіне-чырвоным, тым самым сцягам «з нязвыклымі для тутэйшых мясцін колерамі», як піша Ірына Жарнасек («ЛіМ» №50). А што тычыцца беларускай мовы ў царкве, то, на думку святара, весці на ёй набажэнства практычна немагчыма, бо не гучыць яна і ніяк не ўспрымаецца на слых. Яшчэ не так даўно ў кіёску, што стаіць каля Пакроўскай царквы і дзе прадаецца ўсялякая шырокаспажывецкая царкоўная прадукцыя, можна было набыць ксеракапіраваную брашуру аднаго з іерархаў Замежнай Праваслаўнай царквы 40-х гадоў выдання «Ватіканъ и Россія», у прадмове да якой аўтар чорным па белым вывеў пастулат: «православный — значит русский». І што з таго, што Савецкая РПЦ не прызнае Замежную РПЦ і наадварот, галоўнае — ідэалагічная еднасць. І асабліва ў тых пытаннях, якія тычацца Уніі.

Калі 10 лістапада мінулага года ў Віцебску сабраліся тутэйшыя уніяты, а таксама прыехаўшыя з Менска і Полацка, каб правесці свята ў дзень святога пакутніка Іязафата Кунцэвіча (асоба і дзейнасць якога яшчэ чакаюць пераасэнсавання) і ўстанавіць крыж на месцы ягонага забойства, то на іхняе «усмирение» быў кінуты атрад міліцыі, і пад пагрозай прымяніць сілу свята было перапынена. Каб уратаваць становішча (бо няёмка было перад святаром, запрошаным спецыяльна дзеля гэтага са Львова), уніяты і прадстаўнікі Віцебскай Рады БНФ вымушаны былі наведаць гарвыканком і правесці перамовы з намеснікам старшыні гарвыканкома В. Лапінскім і іншымі прадстаўнікамі гарадскіх улад. Нам было інкрымінавана тое, што мы абразілі Савецкую ўладу, не папрасіўшы дазволу на правядзенне свята загадзя, як патрабуе закон аб мітынгах і дэманстрацыях, і што калі кожны будзе так дзейнічаць, то ўвесь Віцебск тады пакрыецца крыжамі, і што дазволу ў гарадской архітэктуры не атрымалі, і што уніяцкія святары супрацоўнічалі з нямецка-фашысцкімі акупантамі, і г. д. Якраз пад час гэтай размовы Лапінскі сказаў: «Вы думаете, я не знал об этой вашей акции? Мне Филарет еще две недели назад звонил». Далейшае развіццё падзей было наступным: мы напісалі заяву, якую гарвыканком праз два дні разгледзеў і аднадушна забараніў укапваць крыж, а міліцыі было загадана «следить в оба и пресекать любые попытки». А каб зручней гэта было ім рабіць, крыж яны забралі і прыхавалі ў сваіх апартаментах, а зараз, пад пагрозай распілаваць яго на дровы (асвячоны крыж!), патрабуюць, каб мы забралі яго назад. Дарэмна на тым пасяджэнні гарвыканкома мы амаль гадзіну прамаўлялі да розуму яго членаў, тлумачыўшы, якую ролю адыграла Унія ў культурным, духоўным жыцці беларусаў, у фарміраванні нацыянальнай свядомасці. Для спадароў-граданачальнікаў гісторыя уніяцкай царквы заключалася ў выкрыванні дрэнных якасцяў асобы Кунцэвіча. Ужо на выхадзе, запытаўшыся ў Лапінскага аб тым, што Філарэт у сваім званку пэўна прасіў прыняць захады супраць уніятаў, пачулі ў адказ: «Я слишком мелкая сошка, чтобы мне звонил Филарет». Сапраўды, нічога тут не папішаш. Тэлефонная размова не дакумент, да справы яе не прышыеш і ніхто не дакажа, ці была яна на самай справе і які быў яе змест.

З нагоды з'яўлення уніятаў праваслаўны клер у Віцебску спешна «пайшоў у наступ» (А. Сідарэвіч, «ЛіМ» №50). Ствараюцца яшчэ дзве абшчыны, якія просяць ад гарадскіх уладаў дазвол на адбудову Успенскага збору і Уваскрэсенскай царквы (уніяцкія храмы, пабудаваныя ў XVIII ст. і зруйнаваныя ў 30-х гг. XX ст.). І такі дазвол яны хутка атрымліваюць. Відаць, галоўнае зараз і для тых, і для другіх перакрыць усе шляхі уніятам.

Гэтую тэму можна яшчэ доўжыць і доўжыць. Прыкладаў такога «супрацоўніцтва» шмат. Тэма гэтая будзе сапраўды невычэрпная, пакуль не будзе ў рэспубліцы нармальнага, дэмакратычнага закона, які быў бы распрацаваны з улікам нашых гістарычных варункаў і які б рэгламентаваў адносіны дзяржаўных органаў і прадстаўнікоў усіх канфесій паміж сабой. Аднак вернемся да таго, з чаго пачыналі.

Як вядома, помнікі архітэктуры адлюстроўваюць культурны і эканамічны стан грамадства таго часу, калі яны ствараліся. Калі мы параўнаем, напрыклад, які-небудзь старадрук XVII стагоддзя і царкву гэтага ж часу, то абедзве гэтыя рэчы будуць несці нам інфармацыю пра ўзровень культуры нашых продкаў у XVII ст. Але старадрук ляжыць у сховішчы бібліятэкі альбо музея, ён не бачны шырокаму колу людзей і даступны толькі спецыялістам-навукоўцам, то помнік архітэктуры стаіць на вуліцы і мы кожны дзень маем магчымасць яго бачыць. Такім чынам, ужо сваёй прысутнасцю ён нясе нам пэўную гістарычную інфармацыю, якая ўспрымаецца візуальна. Як бачым, пры параўнанні гэтых рэчаў будзе зусім розны каэфіцыент уздзеяння на свядомасць чалавека. У сваю чаргу помнік архітэктуры можа таксама несці розную інфармацыйную нагрузку. Калі я, напрыклад, не як навуковец, а як просты назіральнік гляджу на рэнесансны будынак той жа Святадухаўскай царквы Куцеінскага манастыра, то міжволі пад корку мне западае інфармацыя аб мастацкім гусце, высокім майстэрстве дойлідаў мінулага, аб самабытнасці беларускай культуры ўвогуле і г. д. А калі я гляджу на той самы помнік, які накрыты двухсхільным дахам з «цыбулінай» пасярэдзіне, то зноў жа міжволі адзначаю, што ніякай самабытнасці, як бы прыгожа гэта ні было зроблена, тут не бачу, бо архітэктуры такога прыкладу вельмі шмат на неабсяжных прасторах Расіі.

На першы погляд здаецца, што ўсё гэта дробязі. Так, дробязі. Але дробязі, з якіх, як з мазаікі, складаецца суцэльная карціна — нацыянальны дух, нацыянальная культура. Тое, што шмат гадоў тапталася і вынішчалася рознымі «вызваліцелямі» і «правадырамі». І мы, пачынаючы зараз усведамляць нарэшце, хто мы такія ёсць, не маем ніякага права маўкліва назіраць, як губляюцца яшчэ зберажоныя фрагменты гэтай мазаікі.

**Ігар ЦІШКІН.**

г. Віцебск.

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### ДЗЯКУЙ МАЙСТРАМ

**Канцэрт заходнееўрапейскай класічнай музыкі адбыўся ў глядзельнай зале Шпіталя для інвалідаў вайны ў пасёлку Лясны Мінскай вобласці.**

**Ансамбль «Кантабіле» Беларускай філармоніі ў складзе Канстанціна Шарава (клавесін), Пятра Саніна (скрыпка), Сяргея Драбкіна (віяланчэль), Генадзія Гедыльтэра (флейта) і Валерыя Фралова (габой) па-майстэрску выканаў сюіты, п'есы сярэдневяковых кампазітараў. Плаўныя, пяшчотныя гукі музыкі так захапілі, што і ў хворых слухачоў хапіла вытрымкі праслухаць увесь канцэрт, нягледзячы, дарэчы, на тое, што ў зале было халаднавата. А падзякай для артыстаў былі дружныя апладысменты прысутных.**

**Гэты шэфскі музычны падарунак надоўга запомніцца хворым інвалідам з усіх куткоў рэспублікі. Вялікі дзякуй майстрам-выканаўцам музыкі сярэднявечча, якая так патрэбна цяпер людзям для духоўнага выхавання.**

**Міхаіл МАМУС,**
**ветэран вайны і працы,**
**слухач канцэрта.**

### УЗНАГАРОДЖАНЫ МЕДАЛЁМ ІМЯ ГРЭКАВА

**Міністэрства культуры СССР, Саюз мастакоў СССР, Галоўнае палітычнае ўпраўленне Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту ўзнагародзілі мастака П. Дурчына сярэбраным медалём імя М. Б. Грэкава за стварэнне графічнага цыкла, прысвечанага абаронцам Брэсцкай крэпасці.**

**Працу над гэтай серыяй П. Дурчын пачаў яшчэ ў 1956 годзе і за гэты час напісаў звыш 100 партрэтаў жывых і загінуўшых абаронцаў крэпасці над Бугам. Цыкл нядаўна завершаны выявай пісьменніка Сяргея Смірнова, аўтара дакументальнай кнігі «Брэсцкая крэпасць». Акрамя таго, П. Дурчын адлюстраваў муры крэпасці, яе руіны на многіх афортах, літаграфіях.**

**З беларускіх творцаў медалём імя М. Б. Грэкава дагэтуль былі ўзнагароджаны А. Бембель, Г. Вашчанка, М. Савіцкі.**

### «НАША СЛОВА» — ЧАРГОВЫ НУМАР

**640-годдзю з дня нараджэння беларускага князя Вітаўта Вялікага, чалавека, роля якога ў жыцці Беларусі выключная, прысвечаны асобныя публікацыі чарговага нумара бюлетэня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны «Наша слова»: артыкулы М. Ермаловіча «Вітаўт», А. Станкевіча «Вітаўт Вялікі і беларусы» (публікацыя Г. Тумаша), вершы М. Арочкі.**

**А. Каўка разважае пра мову і Саюзны дагавор у нататцы «Адзіная дзяржаўная, або Спакуса паліцэйшчынаю?». На пачатку снежня ў Мінску адбыўся рэспубліканскі форум «Інтэлігенцыя ў нацыянальным адраджэнні і ажыццяўленні суверэнітэту Беларусі». У нумары — справаздача з гэтай сустрэчы.**

**Пра Я. Скрыгана-чалавека і пісьменніка расказвае Х. Лялько («Пра самае важнае»); Л. Баршчэўская гаворыць з дырэктарам Першай беларускай гімназіі Л. Аляксеевай («На карысць Бацькаўшчыны»); П. Місько запрашае акунуцца ў крыніцу роднай мовы («Слухайма, як людзі кажуць...»); І. Германовіч працягвае расказваць пра вядомых беларускіх мовазнаўцаў («Антон Антановіч»)...**

## ЗМЯСТОЎНАЯ «СПАДЧЫНА»

**Чацвёрты леташні нумар часопіса падорыць чытачу шмат цікавых хвілін. Лепш за ўсё адкрыць чарговую кніжку «Спадчыны» на раздзеле «Паэзія. Проза», дзе змешчаны дайшоўшыя да нас з «нашаніўскіх» часоў апавяданні В. Ластоўскага «Прывід», «Лабірынты», «Адзіное». Бадай, упершыню, чытаючы «Лабірынты», дачынаешся да арыгінальнай аўтарскай філасофскай канцэпцыі беларускай гісторыі.**

**Вяртаюцца да чытача адмысловыя творы А. Смоліча «Геаграфія Беларусі», А. Станкевіча «Вітаўт Вялікі і беларусы»; з эміграцкіх выданняў друкуецца заканчэнне даследавання А. Калубовіча «Айцы БССР і іхні лёс» і артыкул «Сымболіка і аўтары марак БНР» з нью-йоркскай газеты «Беларус». Дарэчы, афармленне вокладак часопіса трапна дапаўняе гэты перадрук выявамі паштовак часоў БНР.**

**Пазбаўленню стэрэатыпаў у разуменні гісторыі і культуры Беларусі прысвечаны артыкулы А. Петрашкевіча, Я. Юхо, У. Асмалоўскага.**

**...З сівой даўніны вялікакняскіх часоў даходзяць да нас сілуэты святых пакутнікаў літоўскіх Антонія, Іаана, Яўстафія. Але чаму мы не бачым іх сёння ў ліку кананізаваных праваслаўнай царквой беларускіх святых? На гэтае пытанне спрабуе адказаць у сваёй нататцы А. Цітоў. Змешчана частка «Сказання пра трох віленскіх пакутнікаў», а таксама летапісны аповяд пра князя Тройдзеня ў перакладзе В. Чамярыцкага.**

**У раздзеле «Літаратурныя помнікі» прапануюцца дайшоўшыя творы беларускіх дзеячаў XVII ст. Тэадора Білевіча і Мікалая Крыштофа Радзівіла.**

**Друкуецца працяг «Новага Запавету» ў перакладзе А. Клышкі і іншыя матэрыялы.**


ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 23-73-37.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.

Рэдакцыйная калегія:
Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГІЛЕП, Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.

Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12